КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 3 (372) ◂ 24 студзеня ◂ 2014 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**ВЫРАТАВАЦЬ ЯЎГЕНА ВАСЬКОВІЧА**



**ЗБОЙ ІМУННАЙ СІСТЭМЫ**

Насельніцтва і ўлада па-рознаму разумеюць стабільнасць. Для насельніцтва стабільнасць — гэта двухзначны рост прыбыткаў, для ўлады — права на нязменнасць



**ЗА КАГО Б ГАЛАСАВАЎ ШЭРЛАК ХОЛМС?**

Пасля выхаду на экраны трэцяга сезону тэлесерыяла «Шэрлак» брытанцы пачалі спрачацца наконт палітычных забабонаў славутага дэтэктыва з Бейкер-Стрыт



**ДАЙЦЕ ПІНІГІНУ ДАГАВАРЫЦЬ**



ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ДАТЭРМІНОВЫЯ ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ**

Меркаванне Міхаіла Пастухова




# МАЙДАН — ГАРАЧЫ ПРАЦЯГ

Зміцер ГАЛКО

**Кіеў, вуліца Грушэўскага… Акрываўленыя галовы, выбітыя вочы, людзі ў агні, забітыя! Старонні глядач, які два месяцы быў у замілаванні, разгублены. А ўсё было так прыгожа на Майдане: песні, танцы, тысячы ліхтарыкаў, грандыёзны пікнік пад адкрытым небам.**

Знянацку гэтае кіно для сямейнага прагляду пра любоў да Еўропы змяняецца на жорсткую карціну з абмежаваннем па ўзросту 18+.

Калі хтосьці бачыў нешта падобнае падчас Арабскай вясны, яго тое не вельмі турбавала — там «усходняя дэспатыя», іншыя норавы і традыцыі. Там, так далёка, як бы і не пра нас. Але каб тут, побач, у адной з найбольш дэмакратычных краінаў постсавецкай прасторы!

Жах. Для ўсіх, і для тых, хто спачувае паўстаўшым, і хто не спачувае, хаця і па розных прычынах. Іншыя ж задаліся пытаннем: чаго гэта яны раптам? Сёй-той нават бурчэў, што вось, маўляў, не ўтаймавалі іх па беларускім узоры, дык яны пашалелі ад такой празмернай дэмакратыі. А можа, нехта нават ціхенька дадаў: «Самі вінаватыя… Ад добрага лепшага не шукаюць».

Скажоная палітычная сітуацыя ў Беларусі сказіла ўспрыманне многіх паняткаў. Прыкладам, дэмакратыя ўспрымаецца як вытворнае ад улады, адна са шчадротаў, якую яна можа даць. Або — пазбавіць яе. Рэч не зусім зразумелая, мала хто ведае, з чым яе ядуць, таму — факультатыўная.

Можна «нагугліць» самыя розныя вызначэнні, пачытаць разнастайныя думкі пра важнасць дэмакратыі для развіцця грамадства, але, падобна, пакуль у ёй не ўзнікне ўнутранай патрэбы, усё гэта застанецца мёртвай літарай.

Паводле дадзеных сацыялагічнага апытання, праведзенага напрыканцы снежня мінулага года, 51 працэнт украінцаў лічыць дэмакратыю найбольш жаданым грамадскім ладам для сваёй краіны, 45 працэнтаў — гатовыя трываць матэрыяльныя цяжкасці дзеля асабістай свабоды і гарантый захавання грамадзянскіх правоў.

Апошнімі днямі ўкраінцы даказалі, што гатовыя на большае. І цяпер мы дакладна ведаем пра дэмакратыю прынамсі адну рэч: дэмакратыя — гэта тое, дзеля захавання чаго нашы паўднёвыя суседзі ахвяруюць сваім здароўем і нават жыццём.

І ўсё-ткі, у чым яна палягае, тая дэмакратыя? Перш за ўсё — ва ўменні жыць разам, не перашкаджаючы адзін аднаму, дамаўляцца, улічваючы розныя інтарэсы.

Украіна ніколі не была вельмі зручным і ўтульным месцам для жыцця ў побытавым плане, але дыхалася там заўжды вальней. Праз тое, што, як мінімум, вялікая розніца паміж рэгіёнамі прымушала палітыкаў шукаць і знаходзіць кампраміс.

Калі Віктар Януковіч перамог на выбарах у 2010 годзе Юлію Цімашэнку, многія палітолагі паспяшаліся запэўніць, што Януковіч «будзе зусім іншым». У параўнанні з тым, якім ён быў бы, калі б Расія працінула яго кандыдатуру ў 2004 годзе. Вось паглядзіце, прагназавалі яны, ён яшчэ пераплюне Юшчанку па дэмакратычнасці і прывядзе Украіну ў Еўропу!

Замест гэтага Януковіч паставіў Украіну на мяжу грамадзянскай вайны.

У асяродку беларускіх «пікейных камізэлек» даводзілася чуць меркаванне, як быццам тое адбылося праз яго залішнюю «мяккасць». Так здавалася, калі параўноўваць падзеі на Майдане першага этапу з разгонам Плошчы 19 снежня 2010 года ў Мінску.

Але Януковіч дзейнічае ў зусім іншым кантэксце, параўноўваць яго трэба з папярэднікамі. Гэтае параўнанне недвухсэнсоўна сведчыць: Януковіч — самы жорсткі украінскі прэзідэнт. Ён першы кінуў сваіх палітычных апанентаў у турму. Пры ім падчас разгону мітынгу ўпершыню загінуў чалавек — яшчэ ў 2011 годзе, калі ліквідавалі намётавае мястэчка інвалідаў-чарнобыльцаў, што пратэставалі супраць адмены льготаў, у яго родным Данецку. «Цітушкі», наёмныя былыя спартоўцы або звычайныя гопнікі, якіх выкарыстоўваюць для нападаў на палітычных апанентаў, распладзіліся таксама за Януковічам.

Галоўнае ж — ён зламаў аб калена культуру кампрамісу, якая худа-бедна дзейнічала да яго прыходу на пасаду кіраўніка краіны. Асабліва яскрава гэта было прадэманстравана, калі ён не з'явіўся на прызначаныя ім самім перамовы пасля першай ночы сутыкненняў у цэнтры Кіева. Не з'явіўся, бо не хацеў праяўляць «слабасць».

Толькі цяпер, калі лік зніклых без вестак ідзе на дзясяткі, параненых — на сотні, адкрыўся новы жудасны лік — забітых, ён згадзіўся на сустрэчу з лідарамі трох апазіцыйных партый.

Цяпер ён будзе самым крутым з дыктатараў на постсавецкай прасторы, які не спужаўся адкрытых забойстваў.

Гэта калі будзе. 22 студзеня лідары апазіцыі заявілі пра сваю гатоўнасць ісці ў наступ, нават пад кулі.

◂ Працяг тэмы на стар. 13

ПАЛІТВЯЗНІ

# СТАТКЕВІЧ МОЖА БЫЦЬ ПАМІЛАВАНЫ

**На сустрэчы Лукашэнкі з кіраўнікамі беларускіх СМІ 21 студзеня дырэктар інфармацыйнай кампаніі БелаПАН Алесь Ліпай узняў пытанне пра магчымасць ужывання амністыі да палітзняволеных.**



Мікалай Статкевіч

У адказ Аляксандр Лукашэнка нагадаў, што ўжо не раз гаварыў аб практыцы памілавання, што існуе ў краіне: асуджаны павінен напісаць прашэнне аб памілаванні, якое будзе разгледжанае. «Можаш не пісаць, што ты вінаваты», — дадаў кіраўнік дзяржавы.

На ўдакладняльнае пытанне Алеся Ліпая, ці значыць гэта, што, калі Мікалай Статкевіч напіша просьбу аб памілаванні, але там не будзе прызнання яго віны, то яго вызваляць, Аляксандр Лукашэнка адказаў: «Магчыма, зробім, але парадак выкананы павінен быць».

«Статкевіч палітычна для мяне не канкурэнт, — падкрэсліў Лукашэнка. — Статкевіч — палітычны труп для беларусаў. На апошніх выбарах ён вёў гэту палітыку на карысць прэзідэнта. Ён не быў мне сапернікам і палітыкам, і не будзе. Статкевіч таго не варты, каб быць перашкодай у нашых адносінах з Еўрасаюзам».

Каментуючы БелаПАН выказванні кіраўніка дзяржавы, жонка Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч падкрэсліла: яе муж усё адно не будзе пісаць прашэнне. «Ён з разуменнем ставіцца да рашэння, якія прымаюць астатнія людзі. Але для сябе ён на сённяшні дзень гэту магчымасць выключае. Ні пры якіх умовах ён гэтага не зробіць. Пісаць я яму пра гэта не буду, я думаю, яго праінфармуюць аб гэтым раней, чым я напішу», — сказала Адамовіч.

На ўдакладняльнае пытанне, ці не прымусіць Мікалая Статкевіча змяніць рашэнне той факт, што кіраўнік дзяржавы фактычна зняў патрабаванне аб прызнанні віны ў прашэнні аб памілаванні, Адамовіч адказала: «У мяне на сённяшні дзень няма сумненняў у рашэнні, якое ён прыме. Заканадаўства ніхто не змяняў, умовы не змяняліся. Прашэнне — значыць звярнуцца да таго, хто мае права цябе памілаваць. Невінаватаму не даруюць».

**Паводле БелаПАН**

ЗВАРОТ

# СПЫНІЦЬ КРОВАПРАЛІЦЦЕ

**З нагоды сітуацыі ва Украіне арганізацыі грамадзянскай супольнасці і грамадскія актывісты Беларусі прынялі зварот да Еўрапейскага парламента, Савета Еўрапейскага саюза, Еўрапейскай камісіі, Кангрэсу ЗША, прэзідэнта ЗША Барака Абамы, Дзяржсакратара ЗША па пытаннях Еўропы і Еўразіі Вікторыі Нуланд, прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна, Генеральнага сакратара ААН Пан Гі Муна, прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча, лідараў апазіцыйных партый Украіны, украінскага народа.**

«У гэтыя дні, — гаворыцца ў звароце, — калі сітуацыя ва Украіне выйшла з-пад кантролю супрацьстаячых сіл, калі пачалося кровапраліцце, калі ў Кіеве ідуць вулічныя баі з прымяненнем зброі, мы не можам заставацца ў баку. Украінскі народ — наш братэрскі народ, праблемы якога беларусы добра разумеюць. Супрацьстаянне ва Украіне і яго драматычная развязка, на нашу думку, — гэта вынік дзеянняў улады, якая ўпарта ігнаруе патрабаванні свайго народа, цалкам вычарпаўшы яго давер, якая прымае абсурдныя законы і няўмольна рухаецца па шляху да ўсталявання дыктатуры ў краіне. На наш погляд, памылкі апазіцыйных палітыкаў і пратэстуючых таксама не спрыялі мірнаму вырашэнню сітуацыі.

Мы лічым, што кровапраліцце ва Украіне цяпер можна спыніць. Мы перакананыя, што спыненне гвалту і баявых дзеянняў не пагоршыць становішча пратэстуючых і не прывядзе да іх паразы. Бо пратэст моцны не гвалтоўнымі дзеяннямі, а вернасцю сваім прынцыпам, гатоўнасцю вырашаць праблемы і самаарганізацыі, а гэтага, як мы ўжо бачылі, ва ўкраінскага народа не адбярэш!

Мы заклікаем палітыкаў і лідараў Майдана зрабіць усё, каб узяць сітуацыю пад кантроль і перакanaць мітынгоўцаў спыніць гвалт. Спыненне гвалту не азначае, што пратэстоўцы не змогуць абараняцца і будуць павінны пакінуць свае пазіцыі.

Мы заклікаем паўстанцаў весці перамовы з любымі дамоваздольнымі і дзеяздольнымі суб'ектамі, здольнымі кантраляваць сітуацыю нават на абмежаваных участках — у пэўнай прасторы ў тэатры вулічных дзеянняў, у сілавых структурах, у структурах дзяржаўнай улады.

Мы заклікаем народ Украіны не ставіцца да перамоўнага працэсу, да палітычных крокаў, якія сёння яшчэ магчымыя і эфектыўныя, як да «зацягвання часу». Гвалтоўныя дзеянні не прывядуць да хуткага рашэння праблемы, а толькі зробяць сітуацыю непадкантрольнай.

Мы заклікаем сілавыя структуры, улады Украіны пайсці на рэальны дыялог са сваім народам, нават калі патрабаванні народа здаюцца уладам непрымальнымі.

Мы заклікаем сілавікоў, міліцыю, а таксама ангажаваных дзяржавай дзеячаў спыніць пераслед, выкраданні, збіццё пратэстуючых.

Мы заклікаем усе бакі, так ці інакш задзейнічаныя ў развіцці палітычнага крызісу ва Украіне, кансалідавацца і ўзяць на сябе міратворчую місію. Мы перакананыя ў тым, што асабістая прысутнасць прадстаўнікоў зацікаўленых у вырашэнні канфлікту краін ААН, міжнародных арганізацый у гэтыя дні ў Кіеве будзе выконваць ролю стрымліваючага эскалацыю фактару і дапаможа прадухіліць новыя і масавыя ахвяры.

Згуртаванасць, арганізацыя і паслядоўнасць — гэта гарантаваны заклад сумесных паспяховых дзеянняў!»

**Зварот падпісалі:** *Таццяна Новікава, ГА «Экадом», Экалагічнае таварыства «Зялёная сетка»; Таццяна Пашавалава, Грамадскае аб'яднанне «Цэнтр сацыяльных інавацыяў»; Іна Жызнеўская, ГА «Экадом»; Святлана Каралёва, грамадскі актывіст; Ігар Рынкевіч, Публічная ўстанова «Ліга развіцця дэмакратыі»; Сяргей Мацкевіч, Асамблея НДА Беларусі; Валадар Цурпанаў, Цэнтр «Грамадзянская прастора»; Іна Кулей, Камітэт «Салідарнасць»; Таццяна Вадалажская, Агенцтва гуманітарных тэхналогій; Улад Вялічка, Міжнародны кансорцыум «ЕўраБеларусь»; Алесь Крот, Моладзевая прафсаюзная група «Студэнцкая Рада»; Андрэй Ягораў, Цэнтр еўрапейскай трансфармацыі; Андрэй Аляксандраў, журналіст; Таццяна Равяка, Праваабарончы цэнтр «Вясна»; Танкачова Алена, Цэнтр прававой трансфармацыі; Смалянка Вольга, Цэнтр прававой трансфармацыі; Чарапок Галіна, Цэнтр прававой трансфармацыі; Пётр Кузняцоў, Грамадзянская ініцыятыва «Гомельскі Дэмакратычны Форум»; Аксана Шэлест, Агенцтва гуманітарных тэхналогій; Аб'яднанне Беларускіх Студэнтаў; Таццяна Зялко, Грамадскае аб'яднанне беларускіх пенсіянераў; Марына Адамовіч, жонка палітвязня Мікалая Статкевіча.*

**spring96.org**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЦІСК НА ГРАМАДСТВА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі ў 2013 годзе да лепшага практычна не мянялася. Пра гэта гаворыцца ў штогадовым дакладзе аб сітуацыі з правамі чалавека ў свеце, падрыхтаваным праваабарончай арганізацыяй Human Rights Watch. У дакладзе аналізуецца сітуацыя з правамі чалавека больш чым у 90 краінах.**

«Дзяржава аказвае націск на ўсе формы іншадумства і выкарыстоўвае забаронныя нормы заканадаўства для абмежавання свабоды асацыяцый і сходаў, — гаворыцца ў дакладзе. — Журналісты ўвесь час сутыкаюцца з націскам і адвольнымі арыштамі і затрыманнямі. Восем палітзняволеных застаюцца ў турмах. Тыя з іх, хто былі вызваленыя, працягваюць сутыкацца з абмежаваннямі, пачынаючы ад абмежаванняў на перамяшчэнне і заканчваючы ўключэннем у спісы праваахоўных органаў для кантролю».

У дакладзе таксама падкрэсліваецца, што грамадзянская супольнасць у Беларусі не можа функцыянаваць свабодна, а беларускія суды працягвалі ў 2013 годзе выносіць смяротныя прыгаворы.

У якасці прыкладаў у дакладзе прыводзіцца 25 выпадкаў затрымання журналістаў пры асвятленні імі грамадскіх акцый пратэсту і як мінімум чатыры выпадкі адміністрацыйнага арышту прадстаўнікоў СМІ.

Акрамя таго, у дакладзе згадваецца, што ў сакавіку беларускія ўлады ў чарговы раз адмовілі ў рэгістрацыі тэлеканалу «Белсат», а таксама пракурорскае папярэджанне, якое было вынесенае журналісту Алегу Груздзіловічу за яго кнігу пра тэракт у мінскім метро нібыта за распаўсюджванне фальшывай інфармацыі. Таксама ў дакладзе згадваецца судовая справа па фотаальбоме «Прэс-фота Беларусі–2011», у выніку якой выданне было прызнанае экстрэмісцкім.

Сярод пазітыўных крокаў беларускіх уладаў аўтары даклада адзначаюць дазвол наведаць Беларусь прадстаўніку АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуні Міятавіч і рэгістрацыю незалежнага штомесячнага часопіса «Arche. Пачатак».

У дакладзе таксама адзначаецца, што летась былі спыненыя крымінальныя справы ў дачыненні да журналістаў Антона Сурапіна і Андрэя Пачобута.

**Таццяна Каравянкова, БелаПАН**

ВЫБАРЫ

# ЯРМОШЫНА ПАДАЗРАЕ АПАЗІЦЫЮ Ў ПРАВАКАЦЫЯХ

**Генадзь КЕСНЕР**

**Старшыня беларускага Цэнтрвыбаркаму Лідзія Ярмошына ўгледзела «пэўныя правакацыі» ў спробах асобных апазіцыйных дзеячаў зарэгістравацца кандыдатамі ў дэпутаты на маючых адбыцца 23 сакавіка выбарах у мясцовыя Саветы адразу па некалькіх акругах.**

«З улікам той тэндэнцыі, якая мае месца ў дачыненні толькі да дзвюх партыяў — АГП і БНФ, якія здзяйсняюць намеранае дзеянне — падачу заяваў па некалькіх выбарчых акругах, гэта сведчыць, магчыма, пра жаданне арганізаваць пэўныя правакацыі на першапачатковым этапе выбараў», — такую заяву Ярмошына зрабіла на пасяджэнні Цэнтрвыбаркаму 21 студзеня.

Гэтая заява прагучала ў звязку з прыняццем пастановы ЦВК, якая адмяніла рашэнне пра рэгістрацыю ініцыятыўных груп сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі Мікалая Уласевіча па дзвюх выбарчых акругах. Раней мясцовыя ўлады адмовілі ў рэгістрацыі дзвюх ініцыятыўных груп па вылучэнні кандыдатам у дэпутаты Мінгарсавета старшыні Партыі БНФ Аляксея Янукевіча, а таксама ўсіх ініцыятыўных груп па вылучэнні ў той жа Савет кіраўніка АГП Анатоля Лябедзькі.

Па словах аднаго з каардынатараў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» юрыста Валянціна Стэфановіча, пасля прынятых нядаўна зменаў у Выбарчы кодэкс, сапраўды, рэгістраваць ініцыятыўную групу можна толькі па адной акрузе. Аднак, звяртае ўвагу праваабаронца, гэтыя змены ў выбарчае заканадаўства не былі шырока абмеркаваныя ў грамадстве.

«Гэтыя змены прымаліся фактычна таямнічна, тэксту законапраекта на рукі ніхто не атрымаў, нават эксперты Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ. Усё было хуценька прынята, набыло сілу — і ўсё. Мела б сэнс Цэнтрвыбаркаму растлумачыць змены ў спецыяльных метадычных рэкамендацыях. Такія метадычкі існуюць, і я спецыяльна зазірнуў у частку, датычную рэгістрацыі ініцыятыўных груп, і там гэтыя новыя моманты не акцэнтаваныя ўвогуле ніякім чынам. Таму я перакананы, што прадстаўнікі згаданых Ярмошынай палітычных партыяў маглі не ведаць пра новыя акалічнасці», — адзначыў юрыст.

Намеснік старшыні незарэгістраванага Праваабарончага цэнтра «Вясна» таксама звярнуў увагу на наступны момант. «Выбарчае заканадаўства гарантуе кожнаму грамадзяніну права вылучацца ў кандыдаты, і гэтае вылучэнне пачынаецца з моманту рэгістрацыі ініцыятыўных груп. Чаму чалавеку адмаўляюць у рэгістрацыі ўсіх ініцыятыўных груп? Нават калі чалавек не ведаў пра новаўвядзенні і падаў на рэгістрацыю ў некалькіх акругах, можна было б па-чалавечы пазваніць і спытаць, дзе вы будзеце балатавацца, бо ў некалькіх акругах нельга. А вось у ЦВК чамусьці вырашылі стварыць праблему на роўным месцы. Вось таму Ярмошына, якая фактычна сама сябе падставіла, і пачала казаць пра нейкія правакацыі з боку апазіцыі. Але ніякія правакацыі нікому не патрэбныя, бо ўсе і так даўно і добра ведаюць, якія ў нас выбары і які будзе іх вынік», — разважае Валянцін Стэфановіч.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ВОСЬ І ПАРАЗМАЎЛЯЛІ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Размова галоўных рэдактараў вядучых беларускіх СМІ з Аляксандрам Рыгоравічам ад пачатку была абнесеная таямніцай. Не вызначаліся тэмы размовы, запрашэнні атрымалі персанальна рэдактары, не было звыклай трансляцыі па радыё альбо тэлебачанні.**



Падавалася, што Аляксандр Лукашэнка хоча даведацца ад «неабліжаных» пра тое, чым дыхае зараз грамадства. Таму напачатку сустрэчы ён прасіў: не трэба пытанняў, давайце проста паразмаўляем.

Але размовы не атрымалася. Журналісты, як заўсёды прынята, задавалі Лукашэнку надзённыя і вострыя пытанні, а Лукашэнка, па яго ных словах, «як самы разумны і прасунуты» на іх адказваў.

Што найперш уразіла ў гэтых пытаннях — адказах? Найперш, правадыр «сінявокай» вымушаны быў прызнаць правату незалежных беларускіх эканамістаў. Як неаднаразова сцвярджалі, што ніякага росту ВУП у 8,5% (планаваны паказчык мінулага года) не будзе, што гэта нерэальна, а рэальна мы атрымаем ВУП на ўзроўні 1%. Так і адбылося, прызнаў Лукашэнка. Але ў той жа час ён папракнуў тых, хто пужаў народ дэвальвацыяй: маўляў «нагняталі абстаноўку», а дэвальвацыі не было і не будзе.

Аднак цікавая рэч. Першым сказам ішло пра тое, што «дэвальвацыі не будзе», а другім — «мы плаўна дэвальвавалі рубель адносна долара на 10% за год, а адносна кошыка валют — на 9%». Дык што? Была дэвальвацыя ці не?

Не абмінулі ўвагай і тэму новага падатку на аўто. «Невялікія грошы», — сказаў Лукашэнка, і паведаміў, што гэтыя грошы будуць накіроўвацца выключна на рамонт дарог. А калі не — дык тады і спускайце з урада і прэзідэнта скуру.

Праблема, між тым, не ў грошах, а ў той самой «сацыяльнай справядлівасці». Год пяць таму аналагічны «дарожны фонд» у Беларусі быў скасаваны — замест яго ўвялі акцызы на паліва, якія павінныя ісці на рамонт дарог. Маўляў, хто больш ездзіць, той больш і плаціць — і за само паліва, і за тыя дарогі. Такім чынам, зараз нам прапануецца за рамонт дарогаў плаціць двойчы — і новым падаткам, і акцызамі.

І з Еўропай у нас усё добра. Канешне, там, у сябе, яны называюць Беларусь «апошняй дыктатурай Еўропы» і гэтак далей. А калі трапляюць сюды, дык просяцца на прыём да Лукашэнкі, каб той «адкрыў ім вочы» на краіну. «Я з усімі размаўляю», — падкрэсліў Лукашэнка.

Дзіўна, што Аляксандр Рыгоравіч прызнаўся: некаторыя заходнія палітыкі, «хай і былыя», прыязджаюць сюды апрацоўваць нейкія свае непублічныя «цёмныя справы». Калі ў нас дыялог, дзе вынік гэтага дыялогу? Дзе малы памежны рух паміж Беларуссю і суседзямі? Чаму не зніжаецца кошт Шэнгенскай візы? Ну, Бог з ім, з Шэнгенам, гэта справа заходнікаў, але чаму беларуская віза для замежнікаў, у тым ліку для нашых суайчыннікаў за мяжой, каштуе 150 еўра?

> «Шчырага дыялогу» не адбылося, нягледзячы на тое, што размаўляў Аляксандр Рыгоравіч з кіраўнікамі СМІ пяць гадзін. Гэта былі зноў «старыя песні аб галоўным»

Пра свой галаўны боль паведаміў Аляксандру Рыгоравічу Павел Якубовіч. Маўляў, друкаваныя выданні пачалі прайграваць інтэрнэту таму, што не выходзяць у панядзелак, і ўвогуле, у нас кепскі парадак распаўсюджвання друкаваных СМІ. Ці можна тут нешта змяніць?

Канешне, можна. І канешне, без кіраўніка дзяржавы тут не абысціся. Радыкальна можна зрабіць тое, што ўжо больш за дзесяць год без перапынку прапаноўвае Беларуская асацыяцыя журналістаў — урэшце скасаваць манаполію «Белпошты» і «Белсаюздруку» на распаўсюд СМІ. Калі манаполія будзе скасаваная, прыйдуць тыя, хто будуць распаўсюджваць газеты і ў панядзелак, і ў суботу, і ў нядзелю, і нават восьмы дзень тыдня выдумаюць, абы толькі грошы плацілі. А мінімальна — дык дайце вы працаваць тым, хто ёсць, навошта вам гэты панядзелак! Вярніце ў распаўсюд «Новы час», «Intex-press», «Віцебскі кур'ер», «Товарищ» і яшчэ з дзясятак выданняў, на якія «Белпоштай» не прымаецца падпіска і якія не бяруць у шапікі «Белсаюздруку». Здыміце гэтыя забароны — і тады ачуняюць «БДГ», «Салідарнасць», «Дзень» і шмат хто яшчэ.

Але самае непрыемнае і чаканае пытанне задаў кіраўнік інфармацыйнай кампаніі БелаПАН Алесь Ліпай — зразумела ж, пра палітвязняў. Маўляў, усе адседзелі палову тэрміна, і могуць выйсці ўмоўна-датэрмінова альбо па амністыі, а Бяляцкі (як і іншыя, дарэчы) сплаціў шкоду, нанесеную дзяржаве.

І вось тут Аляксандру Лукашэнку давялося рабіць вялікія вочы: «Сплаціў? А я не ведаў!»

Ведаў, ведаў. Яшчэ на прэс-канферэнцыі для беларускіх журналістаў год таму, 15 студзеня 2013 года, Аляксандр Рыгоравіч праяўляў дзіўную абазнанасць у справе Бяляцкага. І тое, што справа звязаная з Літвой, і тое, што Літва выдала дадзеныя аб рахунках на імя Бяляцкага, і гэтак далей. Да таго ж, Бяляцкі як прыклад «нібыта палітвязня, які сядзіць за няўплату падаткаў», у Лукашэнкі праскользваў неаднаразова. А даручэнне намесніку Адміністрацыі прэзідэнта Радзькову праверыць гэтыя звесткі ўвогуле выглядае смешна. Як гавораць, Google у дапамогу, не кажучы ўжо пра матэрыялы справы Бяляцкага.

Увогуле, узнікае ўражанне, што справа Бяляцкага ў Лукашэнкі «на кантролі». Кожны год правадыр «сінявокай» адказвае на пытанні па гэтай справе, і прыводзіць Бяляцкага ў прыклад нават тады, калі пра апошняга ніхто не пытаецца. Як гэта было падчас прэс-канферэнцыі 15.01.2013 — пытанне задавалася пра падатковыя дэкларацыі чыноўнікаў.

Да таго ж, па словах намесніка Бяляцкага Валянціна Стэфановіча, Лукашэнка падчас размовы з кіраўнікамі СМІ праявіў надзвычайную юрыдычную абазнанасць. Прынамсі, ён ведае, што амністыя і памілаванне — гэта не адно і тое ж, і чым адно адрозніваецца ад другога. Таму Стэфановіч не вельмі спадзяецца на імгненнае вызваленне Бяляцкага. Бо ўсім «палітычным» у месцах зняволення навешваюць статус «злосных парушальнікаў рэжыму, што не ўсталі на шлях выпраўлення», а на такіх амністыя, зазвычай, не распаўсюджваецца.

Карацей, «шчырага дыялогу» не адбылося, нягледзячы на тое, што размаўляў Аляксандр Рыгоравіч з кіраўнікамі СМІ пяць гадзін. Гэта былі зноў «старыя песні аб галоўным» — тое, што мы можам пачуць падчас кожнай прамовы Аляксандра Рыгоравіча. Проста цікава, навошта тады правадыр запрасіў да сябе журналістаў?

Падаецца, адказ просты. Аляксандр Рыгоравіч — вельмі самотны чалавек. Сяброў у яго няма, акрамя адны паплечнікі. І часцяком яму проста няма з кім паразмаўляць. Вось і даводзіцца выклікаць да сябе разумных людзей, каб проста пацерці языком.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ЛІДЗІЯ ЯРМОШЫНА



«Правакацыяй» спадарыня Ярмошына лічыць падачу дакументаў на рэгістрацыю ініцыятыўных групаў кандыдата ў дэпутаты мясцовых Саветаў па некалькіх выбарчых акругах.

«З улікам той тэндэнцыі, якая маецца ў дачыненні толькі двух партыяў — АГП і БНФ, якія здзяйсняюць наўмыснае дзейства — падачу заяў па некалькіх выбарчых акругах, гэта кажа, магчыма, пра жаданне арганізаваць пэўныя правакацыі на першапачатковым этапе выбараў», — заявіла Ярмошына на пасяджэнні ЦВК у аўторак у Мінску.

Гэткая заява прагучала ў сувязі з прыняццем пастановы, якім адмяняецца рашэнне аб рэгістрацыі ініцыятыўных груп актывіста Аб'яднанай грамадзянскай партыі Мікалая Уласевіча па дзвюх выбарчых акругах.

Сапраўды, кандыдат у дэпутаты мясцовых Саветаў, згодна з новым Выбарчым кодэксам, не можа балатавацца ў дзвюх розных выбарчых акругах адначасова. Але тое, што ён не можа адначасова па двух акругах зарэгістраваць ініцыятыўныя групы па сваім вылучэнні, у кодэксе не прапісана. Гэтым і скарысталіся некаторыя, плануючы правесці замест агітацыйнай інфармацыйныя кампаніі.

Больш за тое, сама Ярмошына адзначыла, што, згодна з заканадаўствам, рашэнне аб рэгістрацыі ініцыятыўных груп не падлягае адмене. Тым не менш, ЦВК рашэнне Астравецкай раённай камісіі па рэгістрацыі ініцыятыўных груп Уласевіча адмяніла, як, нібыта, «першапачаткова незаконнае».

Уласевіч будзе скардзіцца на Ярмошыну ў Вярхоўны суд. А пасля мясцовай кампаніі, магчыма, старшыні ЦВК прыйдзецца па новай перапісаць Выбарчы кодэкс.

### АНАСТАСІЯ КАЛІНА




Біятланістка Анастасія Каліна, якая змяніла грамадзянства з расійскага на беларускае і якая выступала пад беларускім сцягам на некалькіх этапах Кубка свету, не ўключаная ў алімпійскую каманду Беларусі. Гэта зроблена не з-за таго, што яна дрэнна бегае і страляе, а з-за бюракратыі Міжнароднага саюза біятланістаў.

Каліна не раз заяўляла, што марыла б выступіць на Алімпіядзе ў Сочы пад беларускім сцягам. У той жа час Саюз біятланістаў Расіі (СБР) звярнуўся ў Міжнародны Алімпійскі камітэт з просьбай забараніць выступ спартсменкі ў Сочы. Згодна з Канстытуцыяй Міжнароднага саюза біятланістаў (IBU), спартсменка можа прадстаўляць новую краіну ў спаборніцтвах, калі прайшло, па меншай меры, два гады з таго часу, як яна ў апошні раз прэзентавала сваю ранейшую краіну. У студзені 2013 года Анастасія Каліна была ўказана ў стартавым лісце IBU (спрынтэрская гонка этапу Кубка IBU ў Востраве) у якасці прадстаўніцы зборнай Расіі, аднак на лыжню не выйшла. Юрыдычны камітэт IBU вызначыць, ці мае на ўвазе пад сабой тэрмін «указаная ў стартавым лісце» прадстаўленне Расіі на спаборніцтве, альбо такім павінен быць непасрэдны ўдзел у гонцы.

### ТЭА (ЮРЫЙ ВАШЧУК)



Фігурант скандалу вакол беларускага адборачнага туру «Еўрабачання» спявак Тэа (Юрый Вашчук) усё ж паедзе на гэты конкурс. Ён выступіць у другім паўфінале «Еўрабачання».

У першым паўфінале папулярнага тэлешоў, які пройдзе 6 траўня, выступяць Расія, Латвія, Арменія, Азербайджан, Малдова, Украіна — усяго 16 краін. У другім паўфінале (ён пройдзе 8 траўня) — 15 удзельнікаў. Акрамя Тэа з Беларусі, на сцэну выйдуць выканаўцы з Грузіі, Грэцыі, Фінляндыі, Польшчы, Літвы. У ходзе галасавання ў кожным паўфінале будуць адабраныя прадстаўнікі 10 краін, якія затым далучацца да фіналістаў.

Нацыянальны адбор на музычны конкурс суправаджаўся скандалам. Па выніках яго фіналу, які прайшоў у Белтэлерадыёкампаніі 10 студзеня, на конкурсе «Еўрабачанне–2014» у Капенгагене Беларусь прадставіць Тэа з песняй «Cheesecake». Па выніках адначасовага глядацкага і суддзейскага галасавання роўную колькасць балаў у фінале набралі два выканаўцы — Тэа і дуэт Макс Лорэнс&Дзідзюля. У такой сітуацыі, згодна з правіламі нацыянальнага адбору, пераможца вызначаўся дадатковым адкрытым галасаваннем сябраў журы. Эксперты аднагалосна падтрымалі Тэа.

У выніку Макс Лорэнс і Дзідзюля напісалі ліст Лукашэнку з патрабаваннем адмяніць вынікі адбору на «Еўрабачанне».

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЗБОЙ ІМУННАЙ СІСТЭМЫ

Сяргей
НІКАЛЮК



**Насельніцтва і ўлада па-рознаму разумеюць стабільнасць. Для насельніцтва стабільнасць — гэта двухзначны рост прыбыткаў, для ўлады — права на нязменнасць.**

Задача ідэолагаў на сучасным этапе — вярнуць людзей у рэаліі сённяшняга дня, паставіць у такія ўмовы, калі кожны павінен зарабляць грошы сваімі працай і розумам і плаціць у поўнай меры за тое, што мае, лічыць кіраўнік адміністрацыі «адзінага палітыка» (АП) Аляксандр Радзькоў. Гэта неардынарнае прызнанне я знайшоў на сайце БЕЛТА.

Але задача ідэалогіі па вяртанні людзей у рэаліі сённяшняга дня можа быць актуальнай толькі ў тым выпадку, калі на папярэднім этапе ідэалогія хавала рэальнасць ад людзей, г. зн. вырашала процілеглую задачу. Такая выснова напрошваецца, калі не выходзіць за рамкі фармальнай логікі. Аднак я не ўпэўнены, што кіраўнік адміністрацыі АП павінен абмяжоўваць сябе такога кшталту рамкамі.

*«Идеология для государства — то же самое, что иммунная система для живого организма»*. Гэта я цытую непасрэднага кіраўніка Аляксандра Радзькова. Мэтай жа імуннай сістэмы з'яўляецца знішчэнне чужародных агентаў, якімі могуць быць хваробатворныя мікраарганізмы, іншародныя целы ці перароджаныя клеткі самога арганізма.

Гэта тлумачэнне мэты імуннай сістэмы я запазычыў у Вікіпедыі. З яго становіцца зразумела, чаму на грошы падаткаплатнікаў у Беларусі была створана ідэалогія дзяржавы, а не ідэалогія падаткаплатнікаў. Для тых жа, хто не зразумеў, працытую Міхаіла Жванецкага: *«Власть* (дзяржава — С.Н.) — *это люди, которым за наш счет положена охрана от нас же»*.

Але вернемся да сучаснага этапу развіцця дзяржаўнай ідэалогіі. Паводле Аляксандра Радзькова, ён характарызуецца жорсткай канкурэнцыяй на рынку і новымі эканамічнымі рэаліямі. Таму беларусам неабходна навучыцца жыць па сродках і цаніць тое, што яны ўжо маюць.

На папярэднім этапе развіцця дзяржаўнай ідэалогіі ўлада такіх патрабаванняў да грамадства не высоўвала. Звернемся да афіцыйнай статыстыкі. Індэкс рэальна размешчаных грашовых прыбыткаў насельніцтва ў 2011 годзе адносна 2000-га павялічыўся ў 3 разы, а індэкс прадукцыйнасці працы — у 1,94 разу. Далей — больш. У 2012 годзе тэмпы росту прыбыткаў перавысілі тэмпы росту прадукцыйнасці працы ў 5,3 разу, а за студзень–лістапад 2013 года — у 7,5 разу!

Такое ўражанне, што пад хвост «беларускай мадэлі эканамічнага развіцця» хтосьці панадзіўся пырскаць шкіпінарам. Цікава, хто? Няўжо прадстаўнікі «пятай калоны» такім чынам адпрацоўваюць заходнія гранты? А можа, гэта перароджаныя клеткі дзяржаўнага арганізма знайшлі пралом у імуннай сістэме дзяржаўнай ідэалогіі, што дазволіла ім запусціць некантралюемы з вяршыні ўладнай «вертыкалі» працэс дзялення?

## Да дармовага прызвычайваюцца хутка

Не, з уладнай «вертыкаллю» нічога не здарылася. Кантроль над генеральнай лініяй яна не страціла. Праблема ў самой генеральнай лініі, не здольнай прапанаваць грамадству нічога, акрамя росту прыбыткаў за кошт цэнтралізаванай раздачы расійскіх пернікаў.

Мантры наконт *«нашей духовности»*, што перыядычна паўтараюцца, не павінны ўводзіць у зман. Сярэдняй зарплаце ў 500 долараў нездарма быў нададзены сакральны статус *(«святая цифра»)* на старце прэзідэнцкай кампаніі 2010 года. А як жа інакш, калі на сцягах беларускай стабільнасці напісана: *«Маленькая зарплата способна разрушить даже самое сильное государство»*.

Да дармовага прызвычайваюцца хутка. Асаблівых талентаў на гэта не трэба, і рускія са знакам якасці тут не выключэнне. Што б ні разумеў АП пад «стабільнасцю», для яго электаральных прыхільнікаў стабільнасць азначае двухзначны рост прыбыткаў. На меншае яны не згодныя.

У 2001 годзе прыбыткі беларусаў падскочылі на 28%, а ў 2002–2003 гадах выраслі на сціплыя 4%. У выніку рэйтынг АП спікіраваў. Калі б не падвышэнне кошту на нафту з другой паловы 2003 года, якое дало старт пяцігодцы двухзначнага росту прыбыткаў насельніцтва, мы б сёння жылі ў іншай краіне. Была б яна лепшай ці горшай — пытанне асобнае.

У сакавіку 2003 года на піку падзення сваёй папулярнасці АП распачаў спробу дадаць да сацыяльна-паліцэйскіх падпорак сваёй улады падпорку ідэалагічную. Сказана — зроблена. Але не паспелі паліцы кнігарань запоўніцца адпаведнага кшталту навучальнай літаратурай, як у самога АП цікавасць да ідэалогіі знікла (гл. табл. 1).

**ТАБЛІЦА 1.** ЧАСТОТНАСЦЬ УЖЫВАННЯ СЛОВА «ІДЭАЛОГІЯ»* Ў ПАСЛАННЯХ АП

| 2002 | 2003 | 2004 | 2005 | 2006 | 2007 | 2008 | 2009 | 2010 | 2011 | 2012 | 2013 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 15 | 15 | 7 | 1 | – | 1 | 10 | 4 | 11 | – | – |

* Каб выключыць праблемы са склонамі падчас падліку, слова «ідэалогія» выкарыстоўвалася без канчаткаў

**ТАБЛІЦА 2.** ЧАСТОТНАСЦЬ УЖЫВАННЯ СЛОВА «МАДЭРНІЗАЦЫЯ»** Ў ПАСЛАННЯХ АП

| 2002 | 2003 | 2004 | 2005 | 2006 | 2007 | 2008 | 2009 | 2010 | 2011 | 2012 | 2013 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 4 | 1 | 3 | 1 | 5 | 3 | 3 | 9 | 7 | 6 | 49 |

** Глядзі спасылку да табл. 1




У 2004 годзе, яшчэ не здагадваючыся, што «нафтавы афшор» будзе функцыянаваць некалькі гадоў, ён уключыў ідэалагічны блок у тэкст паслання. Але час усё расставіў на свае месцы. АП, як вядома, палітыку «ад жыцця», а жыццё ва ўмовах росту нафтавых прыбыткаў попыту на ідэалогію не прад'яўляла.

Сусветны фінансавы крызіс у 2009 года і рукатворны крызіс у 2011 годзе зноў актуалізавалі страхі АП. У поўнай адпаведнасці з прымаўкай: «Як трывога, так да Бога», праваслаўны атэіст быў вымушаны зноў выняць з запасніка ідэалагічную падпорку. Не выключана, што і ў Пасланні–2014 для яе знойдзецца месца. Нездарма ж Аляксандр Радзькоў загаварыў пра ўзмацненне канкурэнцыі на рынку і пра новыя эканамічныя рэаліі.

## Спецаперацыя «Выбары–2015»

Залежнасць уласнага дабрабыту ад расійскіх шчадротаў АП, безумоўна, не радуе. Адсюль бесперапынныя спробы стварыць унутраныя крыніцы эканамічнага росту. Апошняя ў іх шэрагу — мадэрнізацыя дзяржаўных прадпрыемстваў (гл. табл. 2). Надзеяў яна не спраўдзіла. Ці паўторыць мадэрнізацыя лёс сваёй папярэдніцы лібералізацыі — мы хутка даведаемся. Але што прыйдзе ёй на змену?

У кастрычніку ўрадам і Нацыянальным банкам быў прыняты план сумесных дзеянняў па структурным рэфармаванні і падвышэнні канкурэнтаздольнасці эканомікі. Дакумент утрымлівае шэраг «рэвалюцыйных», па беларускіх мерках, пунктаў. Паўстала адчуванне, што АП вырашыў ад мадэрнізацыі прадпрыемстваў перайсці да рэформаў. Аднак пасля прыняцця плану прайшло ўжо тры месяцы, а АП пра яго так ні разу і не ўзгадаў. Не ўспамінаюць пра план і яго распрацоўшчыкі.

Чым можна растлумачыць масавую амнезію? Чаму спробы па стварэнні ўнутраных крыніц эканамічнага росту былі перапыненыя? Мой варыянт адказу — працяг такіх спроб (надзвычай нятанных, між іншым) несумяшчальны з падрыхтоўкай спецаперацыі «Выбары–2015».

Выхад на «святую лічбу» ў снежні 2010 года быў забяспечаны за кошт знешніх запазычанняў і дысбалансаў у эканоміцы. Усё гэта адгукнулася трохразовай дэвальвацыяй нацыянальнай валюты ў 2011 годзе.

За два гады дысбалансы так і не рассмакталіся. Мне ўжо неадназова даводзілася звяртаць увагу чытачоў НЧ на неверагодны ўзровень аплаты працы ў беларускім ВУП. Паводле Белстату, у I квартале 2013 года ён склаў 54,7%, у II квартале — 50,7%. Інфармацыя за III і IV кварталы адсутнічае. Для параўнання адзначу, што гэты паказчык у Вялікабрытаніі ў 2012 годзе склаў 45%. Гэта еўрапейскі рэкорд.

Зніжэнне рэальнай зарплаты ў верасні і лістападзе мінулага года — гэта не свавольства ўраду, пазбаўленага ўласных палітычных амбіцый, а важны элемент спецаперацыі «Выбары–2015». З пункту гледжання эканамічнай палітыкі, яна ўключае два этапы: этап мінімальнага тэмпу росту заработнай платы ў 2014 годзе, што дазволіць змікшаваць дысбалансы ў эканоміцы, і этап фармаванага дасягнення чарговай «святой лічбы» ў другой палове 2015 года.

Ідэалогію першага этапу прэм'ер-міністр Міхась Мясніковіч агучыў 14 студзеня. Прывяду ключавую цытату з афіцыйнага прэс-рэлізу: «Галоўнымі задачамі на бягучы год з'яўляюцца збалансаваны эканамічны рост і эфектыўнасць».

## Каментар да каментара

Збалансаваны эканамічны рост — гэта якраз тое, да чаго не прызвычаіліся электаральныя прыхільнікі АП. Ключавым тут з'яўляецца слова «збалансаваны». А гэта азначае, што рост зарплаты не павінен перавышаць рост ВУП. А 2013 год паказаў, які сёння патэнцыял росту ў беларускай эканомікі.

11 гадоў дзяржаўная ідэалогія выконвала ролю шырмы, якая закрыла ад беларусаў рэальнасць. Нельга сказаць, што «сучасны этап», так пераканаўча апісаны Аляксандрам Радзьковым, падкраўся незаўважна. Незалежныя аналітыкі неадназова папярэджвалі пра яго набліжэнне. Але дзе вы бачылі грамадскую думку, якая б звяртала ўвага на папярэджанні аналітыкаў ва ўмовах двухзначнага росту зарплат!

«Азбука паліталогіі» падыходзіць да канца, і таму самы час звярнуцца па каментар да класіка: «Людзі, вымушаныя спадзявацца на дзяржаву, не навучаюцца мастацтву быць самастойнымі» (Энтані дэ Ясаі, французскі эканаміст і палітолаг).

А зараз у якасці каментара да каментара я ў чарговы раз працытую кіраўніка адміністрацыі АП: «Мяне заўсёды дзівіць нежаданне людзей працаваць і зарабляць грошы, прытым шмат хто з нас мае завышаныя патрабаванні да ўзроўню жыцця і асабістага дабрабыту. Мы хочам атрымаць ад жыцця адразу і ўсё, але не заўсёды разумеем, што для гэтага трэба працаваць і ўвесь час павялічваць свой прафесіяналізм у любой справе».

У свае 62 гады Аляксандр Радзькоў захаваў здольнасць здзіўляцца. Зайздрошчу. Я на год за яго маладзейшы, і мяне даўно ўжо не дзівіць, што, прадэклараваўшы ў якасці аднаго з базавых прынцыпаў дзяржаўнай ідэалогіі *«общественно полезный труд без расчета на материальное вознаграждение»*, на выхадзе ідэолагі атрымалі завышаныя патрабаванні да ўзроўню асабістага дабрабыту. Прычым патрабаванні гэтыя ніяк не звязаныя з колькасцю і якасцю працы.

ЖЫЦЦЁ

# АСАЦЫЯЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Палата прадстаўнікоў адмовілася павышаць мінімальны памер заробку. Дэпутаты лічаць, што 170 долараў дастаткова для забеспячэння жыцця сям'і з чатырох чалавек.**

З патрабаваннем павысіць заробак выступілі жыхары Баранавічаў. Больш за 140 падпісантаў накіравалі ў Палату прадстаўнікоў прапанову ініцыяваць прыняцце Закона аб усталяванні мінімальнай заработнай платы. Мінімальны заробак прапанавалася зрабіць у памеры 3 мільёны рублёў і мінімальнай пенсіі ў памеры 2,5 мільёна рублёў з індэксацыяй гэтых паказчыкаў падчас змянення цэн на тавары і паслугі. Жыхары Баранавічаў сцвярджалі ў звароце, што «ў цяперашні час узровень сярэдняй зарплаты не з'яўляецца паказчыкам сапраўднага ўзроўню жыцця працоўных. У выніку, пры сталым росце коштаў фактычна адбываецца замарожванне зарплаты працаўнікоў».

Аднак кіраўнік камісіі па працы і сацыяльных пытаннях Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Васіленка адказаў, што «ў цяперашні час памер зарплаты з'яўляецца аптымальным для існуючых эканамічных умоў і забяспечвае высокі ўзровень занятасці на рынку працы, а таксама праз механізм яго індэксацыі часткова пакрывае страты нізкааплатных катэгорый работнікаў, выкліканыя інфляцыяй». Дэпутат паведаміў, што мінімальная зарплата з 1 студзеня 2014 года вызначана ў памеры 1 660 000 рублёў, што складае 100,04% мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек на пачатак 2013 года.

У сувязі з гэтым, лічыць Уладзімір Васіленка, «прапанова па павелічэнні зарплаты не можа быць падтрымана».




## На хлеб і малако

Такім чынам, дэпутаты мяркуюць, што на аднаго чалавека на месяц дастаткова 415 тысяч рублёў (1 660 000 / 4). Гэта значыць, 103 750 рублёў на тыдзень. На што іх хопіць? Мінімальна — на хлеб і малако. Хлеб у сярэднім каштуе 5–6 тысяч рублёў, а малако — 7–8 тысяч за пакунак. Бярэм гэтыя лічбы за 6 дзён, каб нуо не шыкаваць. Атрымліваецца 78 000. Крыху больш за 10 000 каштуе пачак макаронаў (900 грамаў — на тры-чатыры разы хопіць) і каля 12 000 — пачак сметанковага масла альбо маянэзу (400 грамаў) да макаронаў. Бінга! Мы ўлезлі ў мінімальную зарплату за тыдзень, і ў нас засталося 3 750 рублёў на шакаладны батончык маркі «Спартак» вагой у 48 грамаў.

Заўважце, тут не ўлічаныя ані цукар, ані соль, якія можна пазычыць у больш багатых суседзяў. Але ўсё роўна: тое, што беларускія дэпутаты лічаць «100,04% мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек», да болю нагадвае нормы блакаднага Ленінграда.

Асабліва адзначым, што мінімальная заробная плата тычыцца тых працоўных, якія працуюць на поўную стаўку — пяць дзён па восем гадзінаў на тыдзень. Ці можна ўвогуле працаваць пры такой норме харчавання? Я думаю, што наўрад ці, але дэпутаты лічаць інакш. І зразумела, чаму яны лічаць інакш: адна справа, працаваць, напрыклад, на марозе дворнікам — тут сапраўды ад такога харчавання хутка сканаеш. А іншая справа — увесь дзень сядзець у цёплым крэсле і варушыцца толькі для таго, каб націснуць кнопку для галасавання. У такіх умовах не толькі асаблівай ежы не трэба — можна нават галадоўку абвяшчаць!

## Маніпуляцыя лічбамі

Дэпутат Васіленка, на жаль, маніпулюе тымі лічбамі і такім жа чынам, як маніпулюе імі ўлада ў цэлым. Зразумела, памер мінімальнага заробку і мінімальнага спажывецкага бюджэту (МСБ) ён узяў не са столі. МСБ для сям'і з 4-х чалавек устаноўлены Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны 1 лістапада 2013 года ў памеры 1 659 400 рублёў. Фармальна спадар Васіленка адказаў жыхарам Баранавічаў вельмі правільна.

А вось «міністэрства сацыяльнай справядлівасці» бюджэт для сям'і з 4-х чалавек якраз узяло са столі. Бо яно ж само ўсталявала той жа МСБ, але ўжо ў памеры на аднаго працоўнага, — 2 123 190 рублёў!

Як гэта можа быць, што памер мінімальнага спажывецкага бюджэту для сям'і з 4-х чалавек меншы, чым памер МСБ на аднаго працоўнага? Гэта глупства, скажаце вы. Не, не глупства, адкажу я. Гэта сацыяльная палітыка дзяржавы, якая, прыкрываючыся высмактанымі з пальца лічбамі, не збіраецца забяспечваць дастойны ўзровень жыцця і заробку. Бо відавочна, што калі ў сям'і працуюць два чалавекі, МСБ сям'і павінен быць не ніжэйшы (2 123 190 X 2) за 4 246 380 рублёў. А ніяк не 1 659 400.

Такім чынам, мы бачым, што мінімальны беларускі заробак аднаго працоўнага, на які спасылаецца дэпутат Васіленка, не дацягвае да мінімальнага спажывецкага бюджэту таго ж працоўнага! З іншага боку — дзяржава лічыць, што сям'я з 4-х чалавек можа пражыць на грошы, на якія не можа пражыць і адзін чалавек, які працуе!

Варта зазначыць, што з падачы спадара Васіленкі мы разлічваем мінімальны спажывецкі бюджэт. МСБ — гэта паказчык грошай, якога павінна хапіць не толькі на выжыванне, але і ўзнаўленне для далейшай працы на вытворчасці, то бок на ўзнаўленне працоўнай сілы для дзяржавы.

## За мяжой выжывання

Яшчэ адзін цікавы паказчык, які азначае колькасць грошай, якая трэба чалавеку «ледзь-ледзь каб не загнуцца» — бюджэт пражытачнага мінімуму. Вось гэтая лічба якраз і з'яўляецца «мінімумам грошай для выжывання».

Нормы бюджэту пражытачнага мінімуму вызначаны пастановай Савета Міністраў «у сярэднім на душу насельніцтва і па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах у цэнах верасня 2013 года ў разліку на адзін месяц на перыяд з 1 лістапада 2013 года па 31 студзеня 2014 года». Памеры там устаноўленыя самыя розныя, ад 1 158 520 рублёў для працаздольнага насельніцтва, да 867 080 рублёў для пенсіянераў. Але ў сярэднім на душу насельніцтва БПМ складае 1 047 530 рублёў.

Відавочна, што «сярэдні» бюджэт пражытачнага мінімуму сям'і з чатырох чалавек павінен складаць (1 047 530 X 4) 4 190 120 рублёў. Калі ў сям'і працуюць 2 чалавекі, то заробак аднаго не павінен быць ніжэй (4 190 120 / 2) за 2 095 060 рублёў «у цэнах верасня 2013 года».

## Шмат патрабуем?

Ці шмат патрабуюць грамадзяне Баранавічаў, просячы мінімальны заробак у 3 мільёны рублёў? Аказваецца, не вельмі ўжо і шмат, бо нават па мінімальных падліках бюджэт сям'і «каб не загнуцца» павінен складаць больш за 4 мільёны рублёў. У ідэале, мінімальны сямейны бюджэт пражытачнага мінімуму павінен забяспечваць адзін працоўны. Так што патрабаванні жыхароў Баранавічаў нават заніжаныя.

І яшчэ адна цікавая лічба. Мінімальны беларускі заробак — 170 долараў. 170 долараў — гэта памер дапамогі па беспрацоўі ў суседняй Польшчы. І гэта пры тым, што польская дапамога па беспрацоўі лічыцца адной з самых нізкіх у Еўрасаюзе.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА НЕ ВЫРАТУЕ



**На нарадзе па выкананні дзяржпраграмы развіцця гарадоў-спутнікаў і будаўніцтва на тэрыторыі Мінскай вобласці, Лукашэнка патрабаваў рацыянальнага выкарыстання сельскагаспадарчых земляў.**

Бо сёння аграпромкомплекс стаў асновай экспарту. І ад яго праз два гады яны павінны атрымаць 7 мільярдаў долараў за экспарт сельгаспрадукцыі. Таму нельга аддаваць пад будоўлю ўрадлівыя землі.

Зразумела, усё гэта суперэмацыйна — аратарскі прыём, з дапамогай якога спрабуюць не сказаць праўду, а схаваць яе.

Паспрабуем яе пашукаць у афіцыйных дадзеных дзяржстатыстыкі, у паняццях і метадах, якія выкарыстоўваюцца пры колькасным і якасным аналізе канкрэтных фактаў.

Прыкладам, паняцце аграпрамкомплексу, да якога адносяць сельскую гаспадарку як галіну эканомікі і харчовую прамысловасць. Зразумела, што сельская гаспадарка забяспечвае харчовую прамысловасць сыравінай, якая выробляе харчовыя тавары для ўнутранага і знешняга рынка. За 10 месяцаў мінулага года сельская гаспадарка мела каля 0,8 мільярда долараў таваразвароту і 60 мільёнаў адмоўнага сальда. Параўнайце — знешні гандаль Беларусі склаў за гэты перыяд 31,34 мільярда долараў экспарту, 35,38 мільярда долараў імпарту пры адмоўным сальда ў 4,03 мільярда долараў.

Галоўная адметнасць у тым, што дадатнае сальда не атрымлівае Беларусь ні тады, калі павышае памеры таваразвароту, ні тады, калі іх памяншае. Прыкладам, экспарт скараціўся да 79,3%, імпарт таксама, але вартасць яго паменшылася толькі да 91,9%. Відавочна таму, што пры змушаным скарачэнні вытворчасці, імпартныя пастаўкі скарачаюцца не так хутка, а ў асноўных галінах нават растуць. Так, у параўнанні з 10 месяцамі 2012-га за студзень-кастрычнік 2013-га ў гандлі таварамі сальда паменшылася на 5 мільярдаў долараў. Як адзначаюць у Белстаце, фармаванне адмоўнага сальда знешняга гандлю абумоўлена найперш дысбалансам знешняга гандлю прамежкавымі таварамі (хімічная прадукцыя, сыравіна, матэрыялы, камплектуючыя).

Пры гэтым доля экспарту прамежкавых тавараў у агульным экспарце тавараў паменшылася з 71,3% да 64%, доля імпарту ў агульным імпарце — з 76,7% да 70,3%. Адмоўнае сальда па гэтай групе павялічылася з мінус 1,4 мільярда долараў да 4,8 мільярда.

Круць-верць, верць-круць — вынік адмоўны. Калі б хто падкінуў раставральнікаў для льготнага перапродажу, то можна было б жыць. Дастаткова было б сказаць, што Лукашэнка вывеў Беларусь на дадатнае сальда, і большасць зноў убачыла б у ім цудатворцу. Але ж пры існых абставінах нічога не атрымліваецца, дый не атрымаецца.

Напачатку сваёй суверэннай гісторыі Беларусь умела зарабляць у той эканамічнай сістэме, якая была. А зараз не ўмее, бо даўно створаны новыя абставіны для гаспадарання, а Беларусь іх не ўлічвае. Замест гэтага мацуе некалі вызначаныя прыярытэты. Знешні гандаль, сельская гаспадарка, будаўніцтва.

Будавалі аграгарадкі, стваралі комплексы — аказалася, што моладзь там не хоча ні жыць, ні працаваць. Ужо не толькі спецыялісты, але і высокія чыноўнікі панікуюць, што ў значнай колькасці гаспадарак не хапае спецыялістаў і звычайных жывёлаводаў.

Людзі (як кажа Лукашэнка, «народзец»), імкнуцца жыць лепей «зараз і цяпер». Некалькі год таму «народзец» (як лічыў Лукашэнка) падарваў фінансавую сістэму краіны, выдаткаваў свае грошы на іншамаркі — ды так, што давялося ратавацца трайной дэвальвацыяй. А зараз зноў пачалі купляць не столькі «беларускае», колькі імпартнае. Доля імпарту спажывецкіх тавараў у агульным імпарце краіны падвысілася з 12,5% да 17,2%, сальда па гэтай групе пагоршылася на 0,83 мільярда долараў.

У структуры экспарту-імпарту прамежкавыя тавараў, якія выкарыстоўваюцца ў вытворчасці, складаюць да 70% таваразвароту і маюць самае вялікае і адмоўнае сальда. У адрозненні ад іх, доля харчовых тавараў у агульным экспарце складае 13,8%, у імпарце — 6,3%. Атрымоўваецца, што на самай справе харчовы экспарт з'яўляецца ледзь не асноўнай крыніцай валютная выручкі пры дадатным сальда.

І гэта не добра, а вельмі дрэнна. Бо харчовая прамысловасць не мае моцы, каб пацягнуць за сабой усю прамысловасць.

А наогул, каб выйсці на прагнозныя 7 мільярдаў за экспарт сельгаспрадукцыі, трэба ці істотна падвысіць фізічныя аб'ёмы паставак, ці змусіць плаціць расійскіх спажыўцоў двайную цану за беларускія харчы.

ПАЛІТВЯЗНІ

# ВЫРАТАВАЦЬ ЯЎГЕНА ВАСЬКОВІЧА!

Зміцер ДАШКЕВІЧ,
charter97.org



**Ці можа гэта сабе хто ўявіць: з 15 месяцаў знаходжання ў «магілёўскай крытай» Яўген адбыў 8 месяцаў у ізалятары!**

Мы пазнаёміліся з Яўгенам Васьковічам напярэдадні кампаніі–2010, калі я прыехаў у ягоны родны Бабруйск.

Ходзячы па заснежаным горадзе, мы размаўлялі пра тое, што няма сілаў больш цярпець, што мы занадта шмат дазволілі ворагу. Яўген уразіў мяне сваёй перакананасцю ў перамозе, спакоем і натхняльнай усмешкаю.

Не скажу, што мы сталіся такімі ўжо сябрукамі, але тое-сёе зрабіць разам паспелі. Пра тое, што Яўген асуджаны на 7 гадоў, я даведаўся ў жодзінскай турме. І найбольш мяне ўразілі апошнія ягоныя словы, якія паўстаюць перада мной заўсёды, калі думаю пра Яўгена. «Жыццё кароткае, а радзіма — вечная!» — сказаў ён, атрымоўваючы той жахлівы вырак у 7 год…

Што такое атрымаць 7 год, калі цябе ўзялі ў 20? Што такое правесці ў зоне/турме лепшыя гады жыцця, калі чалавек мог бы атрымаць адукацыю, стварыць сям'ю, заняць сваё пачэснае месца ў дзяржаве?.. У нармальнай дзяржаве. А ў такой вар'яцкай, як беларуская, Яўген шукаць месца пад сонцам не жадаў і не жадае. Таму раз за разам і адмаўляецца нешта там падпісваць. Хаця просяць яго ўжо ўсе разам: напішы што заўгодна, але вырвіся з таго пекла!.. Ён жа адказвае ўсім: жыццё — кароткае, Бацькаўшчына — вечная!..

І такая пазіцыя не можа не прыводзіць у шаленства злачынны беларускі рэжым і злачынны рэжым турэмны. Таму кіраўніцтва магілёўскай турмы ўзялося за Яўгена па поўнай. Ці можа гэта сабе хто ўявіць: з 15 месяцаў знаходжання ў «магілёўскай крытай» Яўген адбыў 8 месяцаў у ізалятары!

Я аб'ездзіў кучу турмаў і зонаў, і ніколі, ніколі не сустракаўся з такім беспрэцэдэнтным гвалтам! Ці разумее хто-небудзь, што такое 247 сутак турэмнага ізалятара толькі за апошнія 15 месяцаў? Ці разумее хто-небудзь, што такое турэмны ізалятар? Турэмны ізалятар беларускай турмы — гэта ўзаконены антычалавечы (слова «антыгуманны» тут гучыць нават смешна!) механізм катавання.

Я, напрыклад, для таго, каб не здохнуць у ізалятары ад холаду, быў вымушаны падымацца 5 разоў за ноч на паўгадзінную зарадку: прысядаў, адціскаўся, махаў рукамі — рабіў што толькі можна, каб трохі сагрэцца і гадзінку якую, пакуль не астынеш, паспець кімарнуць. Калі я падымаўся 4 разы — гэта лічылася вельмі ўдалай ноччу. Калі ў такім рэжыме я прасядзеў аднойчы месяц, мне здавалася: яшчэ сутак 10 — і можна выносіць байца. А я ж адседзеў недзе толькі паўгода з першых двух год зонаўскіх матанняў. Яўген жа сядзіць бязвылазна — кожны месяц па 10–20 сутак ШІЗА, і наперадзе ў яго яшчэ 4 жахлівыя гады!

На ўсе просьбы агучыць інфармацыю аб катаваннях Яўген адказвае цвёрдымі адмовамі. Ён раз за разам просіць не казаць, што яму забараняюць атрымоўваць незалежныя газеты, што да яго не прапускаюць большасць лістоў, што ён не вылазіць з ізалятараў. Яўген абгрунтоўвае гэта тым, што інфармацыя толькі нашкодзіць.

Свет цеснаваты, а Беларусь — і пагатоў. І вось днямі стала мажлівым даведацца ад людзей, каторыя сядзелі разам з Яўгенам, што кіраўніцтва магілёўскай турмы пагражае Яўгену Васьковічу давесці ягоных родных да інфарктнага стану, а яму самому — стварыць невыносныя ўмовы адбыцця пакарання, калі інфармацыя аб здзеках з яго патрапіць у незалежныя СМІ.

Я ведаю труслівую сутнасць турэмшчыкаў — злодзеяў у пагонах — яны будуць датуль здзекавацца з цябе і пагражаць табе роднымі, пакуль ты не агучыш гэтую інфармацыю галосна. Злачынцы баяцца адкрытасці, злодзей не мае мажлівасці зладзейнічаць пры святле.

Таму сёння я крычу аб тым, што ў магілёўскай турме №4 катуюць Яўгена Васьковіча! І калі мы ўсе разам не ўздымем свой голас, гэтага мужнага хлопца проста закатаюць у бетон. Начальнік турмы Дзмітраў Аляксандр павінен ведаць, што ягоныя злачынствы не застануцца непакаранымі. Магілёўскія турэмшчыкі павінны чытаць свае прозвішчы ў незалежных СМІ штодня, каб гэтым злачынцам страшна было высунуць на вуліцу свае лычы.

Наша зброя — гэта праўда і галоснасць. Разам мы можам выратаваць Яўгена — гэтага самаахвярнага героя, для каторага жыццё — кароткае, а радзіма — вечная.




ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЯК ВЫЗВАЛІЦЬ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

Сяргей ПУЛЬША

**Чаго толькі ні рабіла грамадскасць для вызвалення палітвязняў! Праводзіліся марафоны салідарнасці, ладзіліся канцэрты і масавыя акцыі, збіраліся подпісы за іх вызваленне — і нічога.**

Пытанне палітзняволеных падымалася на самых высокіх міжнародных узроўнях, у ААН, а Еўропа дагэтуль называе іх вызваленне першасным крокам для размарожвання стасункаў з Беларуссю. Тым не менш, зараз налічваецца 10 палітвязняў, уключаючы Уладзя Яроменка, які адбывае трохмесячны арышт за невыкананне правілаў прафілактычнага нагляду.

Кожным разам узнікае пытанне: а ці ўсё зрабіла беларуская грамадскасць для таго, каб усе палітвязні выйшлі на волю? Таму штораз узнікаюць новыя ініцыятывы па вызваленні асуджаных, таму і не спыняюцца акцыі салідарнасці, і гэтая тэматыка застаецца актуальнай.

Што ж можа яшчэ зрабіць грамадства, каб палітвязні нарэшце апынуліся на волі?

Праваабаронца Валянцін Стэфановіч кажа, што гэтае пытанне вельмі складанае. «Калі б мы ведалі, што яшчэ можна зрабіць дзеля таго, каб вызваліць палітвязняў, мы б гэта ўжо зрабілі», — кажа ён, нібыта адзначаючы, што большасць магчымасцяў для вызвалення палітвязняў ужо скарыстаная.

Не спыняюць сваіх спробаў выцягнуць палітвязняў з турмаў і беларускія палітыкі. Напрыклад, у Аб'яднанай грамадзянскай партыі актыўна абмяркоўваецца: як скарыстаць Чэмпіянат свету па хакеі, які пройдзе ў Мінску, каб праз яго націснуць на ўлады ў справе вызвалення палітвязняў.

Лідара АГП Анатоля Лябедзьку ў гэтай справе натхняе прыклад Уладзіміра Пуціна, які напярэдадні Алімпіяды паадпускаў частку палітычных апанентаў. «Калі нават ёсць адзін шанец са ста на тое, што палітвязняў выпусцяць, мы павінны гэты шанец скарыстоўваць», — заявіў Лябедзька. Такім чынам ён пралічыў гэты шанец, але ягоная мізэрнасць не азначае, што рабіць нічога не трэба.

Што тычыцца ціску кшталту «адабраць Чэмпіянат свету па хакеі», альбо націснуць праз яго на ўлады з патрабаваннем вызвалення палітвязняў, то Стэфановіч кажа хутчэй пра складанасці, чым пра магчымасці. «Тое, што зрабіў Пуцін — адпусціў палітвязняў напярэдадні Алімпіяды, то, на маю думку, гэта крыху непараўнальныя рэчы. Аляксандр Лукашэнка і не разлічвае, што на ЧМ па хакеі прыедуць Абама альбо Меркель. З іншага боку, Масква мае стасункі з Захадам, а Беларусь самаізалявалася ад яго, разлічваючы выключна на Расію ў якасці асноўнага партнёра», — мяркуе Стэфановіч.

Праваабаронцы таксама не пакідаюць у спакоі афіцыйны Мінск. Стэфановіч кажа, што яны шырока скарыстоўваюць разнастайныя міжнародныя інстытуцыі для ціску на беларускія ўлады па пытанні вызвалення палітвязняў. «Прыкладам, інстытут спецдакладчыка па Беларусі ў Савеце па правах чалавека ў ААН. Іншая справа, што ўлады Беларусі не прызнаюць самога спецдакладчыка», — кажа Стэфановіч.

Дарэчы, тут дзіўная і пазіцыя беларускай дыпламатыі. З аднаго боку, улада не прызнае, што ў краіне ёсць палітвязні. З другога, Лукашэнка раз-пораз кажа, што ў краіне ёсць «адзін-два чалавекі, якіх Еўропа лічыць палітзняволенымі». З трэцяга, падчас спробаў у чарговы раз нармалізаваць адносіны з Еўропай міністр замежных справаў Беларусі Уладзімір Макей кажа, што беларускіх апазіцыянераў з турмаў даўно б адпусцілі, каб яны напісалі прашэнне пра памілаванне. Гэта значыць, дэ-факта ўлада прызнае, што ў Беларусі палітвязні ёсць. Бо не адпусціш жа ўсіх, хто піша такія прашэнні?

Па меркаванні Стэфановіча, для вызвалення палітвязняў павінныя супасці нейкія знешнія і ўнутраныя фактары, каб ва ўлады была матывацыя выпусціць палітвязняў. Такую матывацыю можа стварыць крызісная сітуацыя ў краіне, калі Беларусі запатрабуюцца не толькі расійскія, але і еўрапейскія грошы. У той жа час павінен існаваць міжнародны ціск, каб гэтыя грошы не выдаваліся без вырашэння пытанняў палітвязняў, і ціск унутры краіны.

Аднак гэтых фактараў не бачна. «Унутрыбеларускі ціск», на жаль, пакуль што немагчымы, бо ў падтрымку палітвязняў выказваецца значна менш людзей, чым, напрыклад, супраць новага транспартнага падатку. Ад крызіснай сітуацыі ў эканоміцы заўсёды выратоўвае Расія, даючы крэдыты і прэферэнцыі. А паколькі Расія дапамагае Беларусі, на еўрапейскія патрабаванні беларускія ўлады могуць не звяртаць увагі.

«Зразумела, для ўладаў дастаткова было б адной матывацыі ад Еўропы. Пытанне, як заўсёды, у грошах, якія ўлада зможа атрымаць у абмен на палітвязняў. Гэта прыкра і цынічна, але гэта так: іншых выгодаў улада не бачыць», — кажа Стэфановіч.

Але і тут справа ў тым, што самі палітвязні выступаюць супраць таго, каб іх «выкупалі з палону». Для іх непрымальна ператварацца ў тавар. І іх пазіцыя таксама зразумелая.

Вызваляюцца ж палітвязні проста. Напрыклад, у 2008 годзе ўлады вызвалілі палітзняволеных Аляксандра Казуліна і Андрэя Клімава без усялякіх прашэнняў пра памілаванне, што стала пачаткам так званай «лібералізацыі», якая скончылася 19 снежня 2010 года. Тое ж самае назіралася ў 2011 годзе з часткай асуджаных па «справе Плошчы», — іх таксама вызвалялі без напісання адпаведных прашэнняў пра памілаванне.

Для вызвалення палітвязняў улады могуць скарыстаць і магчымасці амністыяў, якія праводзяцца ў краіне ледзьве не штогод. «У 2012 годзе ўлады казалі, што амністыя будзе насіць «непалітычны характар», але самі ж яе палітызавалі, не ўключыўшы, а дакладней, выключыўшы з яе частку асуджаных па няцяжкіх артыкулах. Зразумела, гэта тычылася няцяжкіх артыкулаў па масавых беспарадках — «справе Плошчы», і іншых артыкулах», — узгадвае Стэфановіч.

Так што выпусціць палітвязняў лёгка. Цяжка заціснуць уладу ў кут, каб яна ніяк не здолела адтуль выйсці, акрамя як праз вызваленне палітычных апанентаў.

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 27 СТУДЗЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Меладрама «Вогнішча на снезе» (Расія). 1-я серыя.
**11.45** Нашы.
**12.10** Меладрама «Вогнішча на снезе» (Расія). 2-я серыя.
**13.55** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Рамантычная камедыя «Любоўны сплёт» (ЗША).
**17.10** БеларусьLIFE.
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 00.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Гістарычная драма «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час» (Расія).
**23.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**23.55** «Слуцкія паясы. Тайныя знакі». Тэлестужка АТН.
**01.05** Дзень спорту.
**01.20** Дэтэктыўны трылер «Крумкач» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** АНТ прадстаўляе: «Аркестр - шоў».
**23.25** Камедыя «Вялікі».
**01.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Такі лёс».
**12.30** «Сямейныя драмы».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.25** «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.40** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ежа багоў».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «13» (ЗША, 2009 г.).
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Адзін цень на дваіх».
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія).
**12.25** Камедыя «З коткі ўсё і пачалося...».
**13.40** Трагікамедыя «Кур'ер» (СССР).
**15.20** Рамантычная камедыя «Коткі-мышкі» (ЗША).
**17.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Серыял «Адзін цень на дваіх».
**19.00** Камедыйны серыял «Сцервы, ці Дзіўнасці кахання» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.40** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.45** Хакей. КХЛ.
**01.40** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія).

### БЕЛАРУСЬ 3

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Плошча мастацтваў». Новае стагоддзе Моцарта.
**08.55** «Скарбніца Гарадзеншчыны». Таямніцы кахання. Гальшанскі замак.
**09.20** «Свет прыроды». Лось.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.50** «Першы рыцар». Мастацкі фільм.
**12.55** «Калейдаскоп».
**13.05** «Год у гісторыі».
**13.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Эраста Карповіча.
**13.45** «Рускі бунт: бессэнсоўны і бязлітасны». Дакументальны фільм. 1-я серыя.
**14.15** «Карані».
**14.45** Мультфільмы.
**15.15** «Народная артыстка». Творчы вечар народнай артысткі Беларусі Т.Мархель.
**16.15** «Наперад у мінулае».
**16.45** «Наша спадчына». Палац Валовічаў.
**17.00** «Сінематэка». Цуд сінематографа.
**17.40** «Камертон». Піяніст, кампазітар, джазмен Сяргей Жылін.
**18.05** «Цуды прыроды». Мадэйра. Тайвань. Балі.
**18.40** «Рэчавы доказ». Сучаснік самой гісторыі. Дакументальны фільм пра Дзяржаўны Гістарычны музей.
**19.05** «Калейдаскоп».
**19.15** «Машачка». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.40** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.05** «Ганна і Камандор». Мастацкі фільм.
**23.25** «Рускі бунт: бессэнсоўны і бязлітасны». Дакументальны фільм. 1-я серыя.
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Эраста Карповіча.
**00.20** «Калейдаскоп».
**00.25** «Год у гісторыі».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.40** «Прамы эфір».
**12.50** «Адмысловы выпадак».
**13.50, 16.50, 19.50, 00.25** Навіны - Беларусь.
**14.30** «Узыход Перамогі. Падзенне блакады і крымская пастка».
**15.30** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**17.10** Серыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Шукальнікі».
**20.40** «Тата ў законе». Тэлесерыял.
**21.45** Серыял «Дзве зімы і тры леты».
**23.35** Дэтэктыўны тэлесерыял «Таямніцы следства».
**00.35** «Адмысловы карэспандэнт».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40** «Новыя рускія сенсацыі».
**09.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «Гатуем».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.25** Серыял «Шаман-2».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Камедыя «Паверх».

### БЕЛСАТ

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**08.00** «Людскія справы».
**08.30** Два на два (тэледыскусія): Дзяржаўная адміністрацыя ў Беларусі.
**09.05** Дакументальная гадзіна: «Гатэль «Рай», дак. фільм, 2010 г., Балгарыя.
**10.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.00** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял: 7 серыя.
**12.00** ПраСвет.
**12.25** Два на два (тэледыскусія): Дзяржаўная адміністрацыя ў Беларусі.
**13.00** Зона «Свабоды».
**13.35** «Людскія справы».
**14.10** Дакументальная гадзіна: «Гатэль «Рай»», дак. фільм, 2010 г., Балгарыя.
**15.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**15.40** «Лютэр», маст. фільм, 2003 г., Германія–ЗША.
**17.40** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял: 7 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пінгвінік Пік-Пок».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Відзьмо-невідзьмо.
**22.10** «Лютэр», маст. фільм, 2003 г., Германія–ЗША.
**00.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.55** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**02.15** Аб'ектыў.
**02.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**03.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).

## 28 СТУДЗЕНЯ, АЎТОРАК

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Мары» (Расія).
**10.05** Серыял «Джамайка».
**11.00** Меладрама «Падвойнае жыццё».
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Гістарычная драма «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Сэрца Мары» (Расія).
**16.30** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладрама «Падвойнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**21.45** Гістарычная драма «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час» (Расія).
**23.40** Сфера інтарэсаў.
**00.00** «Радзівілы. Таямніцы сям'і. Першая серыя». Тэлестужка АТН.
**01.05** Дзень спорту.
**01.20** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** Шматсер. фільм «Ідэальны шлюб».
**23.05** Камедыя «Гарачыя галовы».
**00.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**10.00** «100 адсоткаў».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Мінулай ноччу ў Нью-Йорку» (ЗША - Францыя, 2009 г.).
**15.35** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Сінг-Сінг» (Італія, 1983 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Меч». Серыял.

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Адзін цень на дваіх».
**10.15** Беларуская кухня.
**10.45** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія). Закл. серыя.
**12.05** «Імперыя песні». На біс.
**12.40** Камедыйны серыял «Сцервы, ці Дзіўнасці кахання» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**14.40** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.50** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.55** Вышэй за дах.
**17.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Серыял «Адзін цень на дваіх».
**19.00** Камедыйны серыял «Сцервы, ці Дзіўнасці кахання» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.45** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.45** Тэніс. Парыж. Жанчыны.
**01.50** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія). Закл. серыя.

### БЕЛАРУСЬ 3

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00, 12.00, 18.35, 00.25** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Цуды прыроды». Лаос. Ісландыя.
**08.55** «Маэстра і аркестр». Міхаіл Фінберг.
**09.20** «Наша спадчына». Эпоха Ренесанса і барока.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.50** «Машачка». Мастацкі фільм.
**12.10** «Год у гісторыі».
**12.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі Міхаіла Пташука.
**12.50** «Рускі бунт: бессэнсоўны і бязлітасны». Дакументальны фільм. 2-я серыя.
**13.25** «Струны прасторы і часу». Генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў.
**13.50** «Маем рэчы». Слуцкія паясы, або Пас кунтушовы.
**14.05** «Альманскія балоты». Асаблівасці балот Палескай нізіны.
**14.35** «Росчырк часу». Мастакі Бартлавы.
**14.50** «Там, дзе пракладзены шлях». Дак. фільм пра гісторыя трамвая.
**15.15** «Ганна і Камандор». Мастацкі фільм.
**16.35** Мультфільмы.
**17.20** «Палескі пачастунак». Зразы і сечаны.
**17.35** «Скарбніца Віцебшчыны». Калі былое мінулым стаць не можа.
**18.05** «Карані».
**18.45** «След Сокала». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.35** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.05** «Удваіх пад адным парасонам». Мастацкі фільм.
**23.30** «Рускі бунт: бессэнсоўны і бязлітасны». Дакументальны фільм. 2-я серыя.
**00.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі Міхаіла Пташука.
**00.30** «Год у гісторыі».

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «І ты ўбачыш неба».
**08.25** Фільм «На чужым свяце».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** «Прышэльцы. Гісторыя ваеннай таямніцы».
**13.50, 16.50, 19.50, 00.25** Навіны - Беларусь.
**14.30** «Яны намалявалі смерць. Ад Асвенцыма да Нойенгаме».
**15.30** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**17.10** Серыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** Тэлесерыял «Белыя ружы надзеі».
**20.40** «Тата ў законе». Тэлесерыял.
**21.45** Серыял «Дзве зімы і тры леты».
**23.35** Тэлесерыял «Таямніцы следства».
**00.35** Канцэрт «Памятаем усіх».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Шаман-2».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Камедыя «Паверх».

### БЕЛСАТ

**07.00, 09.20, 12.20, 14.45, 23.40, 02.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35, 13.55** Асабісты капітал.
**08.55, 14.15** Аб'ектыў.
**09.40, 15.05** Відзьмо-невідзьмо.
**10.10** Два на два (тэледыскусія): Дзяржаўная адміністрацыя ў Беларусі.
**10.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Баброўскі.
**10.50** «Дом», серыял: 20 серыя.
**15.30** Два на два (тэледыскусія): Каму выгадная пабудова АЭС у Беларусі?.
**16.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Баброўскі.
**16.15** «Дом», серыял: 20 серыя.
**17.45** Дакументальная гадзіна: «Гатэль «Рай»», дак. фільм, 2010 г., Балгарыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.40** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Рэмарка: Мова.
**22.25** «Лонданцы», серыял: 3 серыя.
**23.10** «Людскія справы».
**01.20** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**01.40** Аб'ектыў.
**02.25** Рэмарка: Мова.

## 29 студзеня, серада

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Серыял «Джамайка».
**11.00** Меладрама «Падвойнае жыццё» (Расія).
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Гістарычная драма «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**16.30** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 00.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладрама «Падвойнае жыццё» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Гістарычная драма «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час» (Расія).
**23.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**23.55** «Радзівілы. Таямніцы сям'і. Другая серыя». Тэлестужка АТН.
**01.05** Дзень спорту.
**01.15** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Ідэальны шлюб».
**23.05** Камедыя «Гарачыя галовы-2».
**00.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Вам і не сніласся».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Сінг-Сінг». Італія, 1983г.
**15.50** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Вам і не сніласся».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Пасцеля з руж» (ЗША, 1996 г.).
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Меч». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Адзін цень на дваіх» (Расія). Заключная серыя.
**10.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**10.50** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака» (Расія). 1-я серыя.
**12.25** Камедыйны серыял «Сцервы, ці Дзіўнасці кахання» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**14.25** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.30** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.40** Рэпарцёр.
**17.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Адзін цень на дваіх» (Расія). Заключная серыя.
**19.00** Камедыйны серыял «Сцервы, ці Дзіўнасці кахання» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.45** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.50** Тэніс. Парыж. Жанчыны.
**01.50** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака» (Расія). 1-я серыя.

### Беларусь 3

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Сафія Слуцкая. Апошняя з роду Алелькавічаў». Дакументальны фільм пра адну з чатырнаццаці беларускіх святых.
**08.55** «Карані».
**09.20** «Маем рэчы». Хлеб.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.50** «След Сокала». Мастацкі фільм.
**12.30** «Калейдаскоп».
**12.40** «Год у гісторыі».
**12.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернага спевака Анатоля Шчарбакова.
**13.20** «Бачыць нябачнае». Навукова-папулярны фільм. 1-я серыя.
**14.05** «Цуды прыроды». Карыбы. Аўстралія.
**14.35** «Палескі пачастунак». Льняныкі.
**14.50** «Камертон». Піяніст Сяргей Тарасаў.
**15.15** «Удваіх пад адным парасонам». Мастацкі фільм.
**16.45** «Святыні зямлі беларускай». Дакументальны фільм.
**17.15** «Лабірынты». «Над дняпроўскай стромай». Пра жыццё і творчасць Янкі Купалы.
**17.40** Мультфільмы.
**18.20** «Пейзажы скрозь час». Мастакі школы ракі Гудзон.
**18.45** «Калейдаскоп».
**18.55** «Белыя ваўкі». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.35** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.05** «Квартэт Гварнеры». Мастацкі фільм.
**23.40** «Бачыць нябачнае». Навукова-папулярны фільм. 1-я серыя.
**00.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернага спевака Анатоля Шчарбакова.
**00.50** «Калейдаскоп».
**00.55** «Год у гісторыі».

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Серыял «МУР».
**13.50, 16.50, 19.50, 00.25** Навіны - Беларусь.
**14.30** «Калі наступіць голад».
**15.30** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**17.10** Серыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** Серыял «Белыя ружы надзеі». 2-я серыя.
**20.40** «Тата ў законе». Тэлесерыял.
**21.45** Серыял «Дзве зімы і тры леты».
**23.35** Тэлесерыял «Таямніцы следства».
**00.35** «1913-ы».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Шаман-2».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Камедыя «Паверх».

### Белсат TV

**07.00, 09.20, 12.30, 14.50, 00.05, 02.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40** Рэмарка: Мова.
**10.05** Відзьмо-невідзьмо.
**10.30** Моўнік: Што такое суткі?
**10.45** Назад у будучыню.
**10.55** «Людскія справы».
**11.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Баброўскі.
**11.35** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Двубой у Вэнлё».
**14.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**14.25** Аб'ектыў.
**15.10** Рэмарка: Мова.
**15.35** Відзьмо-невідзьмо.
**16.05** Моўнік (лінгвістычная праграма): Што такое суткі?
**16.15** Назад у будучыню.
**16.25** «Людскія справы».
**17.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Баброўскі.
**17.10** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Двубой у Вэнлё».
**18.00** «Лонданцы», серыял: 3 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** 54% (публіцыстычная праграма): Жаночы погляд на войска.
**22.05** «Парадокс», серыял: 4 серыя.
**22.50** Невядомая Беларусь: «Як пошуг маланкі», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**23.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**01.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**02.00** Аб'ектыў.
**02.45** 54% (публіцыстычная праграма): Жаночы погляд на войска.

## 30 студзеня, чацвер

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Серыял «Джамайка».
**11.05** Меладрама «Падвойнае жыццё».
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Гістарычная драма «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**16.35** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладрама «Падвойнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**21.45** Гістарычная драма «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час» (Расія).
**23.40** Сфера інтарэсаў.
**00.00** «Радзівілы. Таямніцы сям'і. Трэцяя серыя». Тэлестужка АТН.
**01.05** Дзень спорту.
**01.15** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Лінія Марты».
**23.05** Фільм «Па версіі Барні».
**01.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вам і не сніласся».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Пасцеля з руж» (ЗША, 1996 г.).
**15.30** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Вам і не сніласся».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Пункт прызначэння-3» (Германія - ЗША - Канада, 2006 г.).
**22.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Меч». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Ілюзія палявання» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**10.20** Заўтра - гэта мы!
**10.45** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака» (Расія). 2-я серыя.
**12.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.40** Камедыйны серыял «Сцервы, ці Дзіўнасці кахання» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**14.40** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.50** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.55** «Аўтабатл». Аўтамабільнае ток-шоў.
**17.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Ілюзія палявання» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**19.00** Камедыйны серыял «Сцервы, ці Дзіўнасці кахання» (Расія). Заключныя серыі.
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.40** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.45** Тэніс. Парыж. Жанчыны.
**01.45** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака» (Расія). 2-я серыя.

### Беларусь 3

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Лабірынты». Маёнтак Талстых у Беларусі.
**08.55** Мультфільмы.
**09.20** «Палескі пачастунак». Палюбэнікі.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Год у гісторыі».
**10.45** «Белыя ваўкі». Мастацкі фільм.
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.25** «Год у гісторыі».
**12.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Міхаіла Даўгяла.
**13.10** «Бачыць нябачнае». Навукова-папулярны фільм. 2-я серыя.
**13.55** «У пошуках гармоніі». Музыка Франца Шуберта.
**14.25** «Музеум». Унікальная жырандоль, выкаваная паэтам-кавалём Паўлюком Багрымам.
**14.40** «Непрыручаная птушка». Жыццё і творчасць паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.
**15.00** «3 гістарычных крыніц. Сяргей Сергель». Пра падарожніка, этнографа, даследчыка паўночных народаў.
**15.15** «Квартэт Гварнеры». Мастацкі фільм.
**16.55** «Скарбніца Міншчыны». Заслаўе. Спаса-Праабражэнская царква.
**17.20** «Карані».
**17.50** «Цуды прыроды». Емен. Аман. Індыйскі акіян.
**18.20** «Майстры і чаляднікі». Саломка.
**18.45** «Калейдаскоп».
**19.00** «Дзіця да лістапада». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.35** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**22.05** «Белае возера». Мастацкі фільм.
**23.20** «Бачыць нябачнае». Навукова-папулярны фільм. 2-я серыя.
**00.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Міхаіла Даўгяла.
**00.30** «Калейдаскоп».
**00.35** «Год у гісторыі».

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40, 14.30** Серыял «МУР».
**13.50, 16.50, 19.50, 00.25** Навіны - Беларусь.
**15.30** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**17.10** Серыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** Тэлесерыял «Белыя ружы надзеі». 3-я серыя.
**20.40** «Тата ў законе». Тэлесерыял.
**21.45** Серыял «Дзве зімы і тры леты».
**23.35** Тэлесерыял «Таямніцы следства».
**00.35** «Паядынак». Праграма Уладзіміра Салаўёва.

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.35, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «Справа густу».
**15.40, 18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Шаман-2».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Камедыя «Паверх».

### Белсат TV

**07.00, 09.20, 12.40, 15.00, 00.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40** 54 % (публіцыстычная праграма): Жаночы погляд на войска.
**09.55** Рэмарка (культурніцкая праграма): Мова.
**10.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.55** «Парадокс», серыял: 4 серыя.
**11.40** Невядомая Беларусь: «Як пошуг маланкі», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**12.15** «Рэвалюцыя он-лайн», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**14.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**14.35** Аб'ектыў.
**15.20** 54 % (публіцыстычная праграма): Жаночы погляд на войска.
**15.40** Рэмарка (культурніцкая праграма): Мова.
**16.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.35** «Парадокс», серыял: 4 серыя.
**17.20** Невядомая Беларусь: «Як пошуг маланкі», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**17.55** «Час гонару», серыял: 70 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгода ката Філімона».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Два на два (тэледыскусія).
**22.20** «Наша газета», дак. фільм, 2010 г., Нідэрланды.
**23.20** «Фальшывамапетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 5 серыя.
**01.35** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**02.00** Аб'ектыў.
**02.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.50** Два на два (тэледыскусія).

## 31 студзеня, пятніца

**Беларусь 1**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 01.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Сэрца Марыі» (Расія). Заключная серыя.
**10.05** Серыял «Джамайка».
**11.00** Меладрама «Падвойнае жыццё» (Расія).
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Гістарычная драма «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладраматычны серыял «Сэрца Марыі» (Расія). Заключная серыя.
**16.25** Серыял «Джамайка».
**17.15** Дак. цыкл «Без права на дубль».
**18.10** Таямніцы следства.
**19.20, 00.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.50** Меладрама «Падвойнае жыццё» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Крымінальны баявік «S.W.A.T: спецпрызн горада анёлаў» (ЗША).
**00.00** Журналісцкае расследаванне.
**01.15** Дзень спорту.
**01.30** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Зваротны адлік».
**15.30** Прэм'ера АНТ. «Вучыцца жыць».
**16.10** Навіны спорту.
**16.25** Фільм «Прыгоды зубнога лекара».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Вячэрні Мінск».
**22.20** Фільм «Чорны лебедзь».
**00.20** Камедыя «Місіс Даутфайр».
**02.30** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Вам і не сніліся».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Фільм «Пункт прызначэння-3» (Германія - ЗША - Канада, 2006 г.).
**15.35** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Працэс і памылка» (ЗША, 1997 г.).
**22.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час». Працяг.
**23.40** Кубак Дэвіса. Беларусь - Ірландыя.
**23.50** «Глядзець усім!».
**00.45** «Вялікая гульня». Покер.
**01.30** Фільм «Пункт прызначэння-4» (ЗША, 2009 г.).

**Беларусь 2**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Ілюзія палявання» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**10.20** Цела чалавека.
**10.55** Ваенная драма «Ворагі».
**12.35** Камедыйны серыял «Сцервы, ці Дзіўнасці кахання» (Расія). Заключныя серыі.
**14.40** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.45** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.50** Імперыя песні.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Ілюзія палявання» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**19.00** Спартовая драма «Другі шанец» (ЗША).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма.
**22.35** Рэпарцёр.
**23.25** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).
**00.15** Тэніс. Парыж. Жанчыны.

**Беларусь 3**

**07.20** «Дабраранак.
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Камертон». Кампазітар і спявак Ігар Карнялюк.
**08.50** «Росчырк часу». Творчасць мастачкі Галіны Семікашавай.
**09.00** «Цуды прыроды». Ізраіль.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Сіла веры».
**10.50** «Дзіця да лістапада». Мастацкі фільм.
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.30** «Год у гісторыі».
**12.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Міхаіла Дзянісава.
**13.10** «Структура вакуума». Навукова-папулярны фільм.
**13.35** «Каралі».
**14.05** «Палескі пачастунак». Куцця.
**14.15** «Скарбніца Магілеўшчыны». Мастацтва супраціву.
**14.45** Мультфільмы.
**15.10** «Белае возера». Мастацкі фільм.
**16.30** «Музеум». Партрэты сям'і Вясялоўскіх.
**16.45** «Пясняр Нарачанскага краю». Жыццё і творчасць Максіма Танка.
**17.10** «Анёл на мачце». Дакументальны фільм пра лёс нямецкага карабля.
**17.40** «Адлюстраванні». Міхал Клеафас Агінскі.
**18.05** «Запаведнай сцежкай». Заказнік «Карачэўскі мох».
**18.35** «Калейдаскоп».
**18.45** «Георг». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.35** «Сіла веры».
**22.00** «У госці да «Камераты». Канцэрт вакальных груп «Камерата» і «The London Quartet».
**23.30** «Структура вакуума». Навукова-папулярны фільм.
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Міхаіла Дзянісава.
**00.20** «Калейдаскоп».
**00.25** «Год у гісторыі».

**Россия**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Серыял «МУР».
**13.50, 16.50, 19.50** Навіны - Беларусь.
**14.20** Дзённік Сочы-2014.
**14.30** «Рулетка вялікага тэрору. Чырвоны-белыя».
**15.30** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.30** «Мая планета».
**17.10** Серыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** Тэлесерыял «Белыя ружы надзеі». 4-я серыя.
**20.40** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**21.40** «Каралі смеху».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** «Жывы гук».

**НТВ**

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.

**Белсат**

**19.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**23.15** Камедыя «Паверх».
**01.15** «Авіятары».

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**09.40** Два на два (тэледыскусія).
**10.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 5 серыя.
**11.25** «Наша газета», дак. фільм, 2010 г., Нідэрланды.
**12.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.25** Аб'ектыў.
**14.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.10** Два на два (тэледыскусія).
**15.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.05** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 5 серыя.
**16.55** «Наша газета», дак. фільм, 2010 г., Нідэрланды.
**17.55** «Ранча», серыял: 38 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгода ката Філімона».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Зоры не спяць: Уладзімір Цэслер і творчая свабода.
**22.25** «Дом», серыял: 21 серыя.
**00.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**02.05** Аб'ектыў.
**02.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.50** Зоры не спяць: Уладзімір Цэслер і творчая свабода.

## 1 лютага, субота

**Беларусь 1**

**07.10** Існасць.
**07.40** Камедыя «Сем нянек» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйны серыял «СашаТаня» (Расія).
**11.30** Таямніцы следства.
**12.10** Клуб рэдактараў.
**12.55** Здароўе.
**13.40** Журналісцкае расследаванне.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны цыкл «Без права на дубль» (Расія).
**16.35** Даверай і правярай.
**17.10** Нашы.
**17.20** Камедыйна-прыгодніцкі анімацыйны фільм «Сезон палявання» (ЗША).
**18.55** Дэтэктыўная меладрама «Пад прыцэлам кахання» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Крымінальная камедыя «Вялікі куш» (Вялікабрытанія - ЗША).
**23.35** Дзень спорту.
**23.45** Камедыйны серыял «СашаТаня» (Расія).

**ОНТ**

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.20** «Смак».
**11.00** «Ідэальны рамонт».
**11.55** «Разумніцы і разумнікі».
**12.40** Фільм «Паездкі на старым аўтамабілі».
**14.10** «Хвіліна славы. Дарога на Алімп». Фінал.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** АНТ прадстаўляе: «Бацькоў у школу!».
**17.35** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**18.15** АНТ прадстаўляе: «Я спяваю!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.45** Прэм'ера. Юбілейны вечар.
**00.35** Фільм «Ваенна-палявы шпіталь».

**СТВ**

**06.20** Чатыры танкісты і сабака. Серыял.
**08.20** «Далёкія сваякі».
**08.45** Фільм «Працэс і памылка» (ЗША, 1997 г.).
**10.30** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** Фільм «Закаханы па ўласным жаданні» (СССР, 1982 г.).
**14.20** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дзіўная справа».
**18.30** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумнеі не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Чарлі і шакаладная фабрыка» (ЗША, 2005 г.).
**22.20** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг. Новы сезон.
**23.35** Кубак Дэвіса. Беларусь - Ірландыя. Відэадзённік.
**23.45** Фільм «Я ведаю, што ты ведаеш». Вялікабрытанія, 2008г.
**01.10** «Вялікія таямніцы акіяну».

**Беларусь 2**

**07.35** Фільм-казка «Марозка» (СССР).
**08.55** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.10** Тэлебарометр.
**10.15** Беларуская кухня.
**10.50** Спартовая драма «Другі шанец» (ЗША).
**13.10** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма (Расія).
**14.20** Вышэй за дах.
**14.50** Крымінальная камедыя «Шаноўны джэнтльмен» (ЗША).
**17.05** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.05** Імперыя песні.
**19.10** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Каханне» (Расія).
**21.05** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**23.25** Тэніс. Парыж. Жанчыны. Паўфінал.
**01.30** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).

**Беларусь 3**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Абіцель душы».
**08.35** «Сакрэт фірмы».
**08.55** Дзіцячы фільм. «Канікулы Пятрова і Васечкіна, звычайныя і неверагодныя». 1-я і 2-я серыі.
**11.10** «Наперад у мінулае».
**11.40** «Калейдаскоп».
**11.45** «Тысячагадовы Заслаўль». Дакументальны фільм.
**12.20** «Камертон». Раймонд Паўлс.
**12.45** «Крылатая вясёлка». Навукова-папулярны фільм.
**13.00** «Цябе кахаю, табе і веру..» Памяці Сяргея Ясеніна.
**13.30** «Каралі».
**14.00** «Прыміце тэлеграму ў доўг». Мастацкі фільм.
**15.20** «Калейдаскоп».
**15.25** Канцэрт «У госці да «Камераты». Канцэрт вакальных груп «Камерата» і «The London Quartet».
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.10** «Трэст, які лопнуў». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**19.20** «Калейдаскоп».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Сусветнае кіно. «Эпоха нявіннасці».
**23.05** «Эпоха». Паэт, публіцыст, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху Адам Міцкевіч.
**23.55** «АРТыШОК».
**00.25** «Калейдаскоп».

**Россия**

**07.00** Фільм «Ніколі не размаўляйце з невядомымі» (2005 г.).
**08.30** Фільм «Здзіві мяне» (2011 г.).
**10.20** «Ранішняя пошта».
**11.00, 14.00** Весткі.
**11.10** «Суботнік».
**11.50** «Планета сабак».
**12.25** «Пакой смеху».
**12.35** Фільм «Мой пяшчотна каханы дэтэктыў».
**14.15** «Сумленны дэтэктыў».
**14.50** «Калі танец становіцца жыццём».
**15.45** «Гарадок». Дайджэст.
**16.50** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.45** Фільм «Дачакацца кахання» (2013 г.).
**00.10** «Пакой смеху».
**00.30** Дыяна Арбеніна і «Начныя снайперы». «XX гадоў на сцэне».

**НТВ**

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.20** Дэтэктыў «Іржа».
**15.05** «ДНК». Ток-шоў.
**16.15** «Выратавальнікі».
**16.45** «Следства вялі\..».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**19.55** «Новыя рускія сенсацыі».
**20.55** «Ты не паверыш!».
**22.00** Вострасюжэтны баявік «Зімовы круіз».
**23.45** Фільм «Знайдзі мяне».

**Белсат**

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**09.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Уладзімір Цэслер і творчая свабода.
**10.20** Казкі для дзетак: «Пінгвінік Пік-Пок», «Прыгоды Ціўкі», «Занатоўкі натураліста».
**10.45** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 4 серыя.
**11.30** Два на два (тэледыскусія).
**12.05** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**12.25** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**12.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Баброўскі.
**13.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**13.30** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 2.
**14.05** «Лонданцы», серыял: 3 серыя.
**14.50** «Наша газета», дак. фільм, 2010 г., Нідэрланды.
**15.50** «Час гонару», серыял: 70 серыя.
**16.40** «Дом», серыял: 21 серыя.
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.25** ПраСвет.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.05** Моўнік: Трасянка.
**19.15** Назад у будучыню.
**19.30** «Mad Men. Утрапёныя», серыял, 2007 г., ЗША: 1 серыя.
**20.20** Зона «Свабоды».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Зоська Верас. Шэрая птушка з-пад Вільні», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**21.55** Суботні сеанс: «2 бубачкі», маст. фільм, 2009 г., Чэхія.
**23.30** «Пошук Мазэпы», дак. фільм, 2013 г., Украіна.
**00.30** Аб'ектыў.

## 2 ЛЮТАГА, НАДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.25** Камедыя «Сем старых і адна дзяўчына» (СССР).
**08.50** Слова мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйны серыял «СашаТаня» (Расія).
**11.35** БеларусьLIFE.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.45** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**14.25** Медычныя таямніцы.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**16.05** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.55** Давярай і правярай.
**17.25** Рамантычная камедыя «Дзень сурка» (ЗША).
**19.10** Меладрама «Маша і Мядзведзь» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**22.20** Музычная драма «Багема» (ЗША).
**00.50** Камедыйны серыял «СашаТаня» (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** Фільм «Белае сонца пустэльні».
**13.15** «Кацярына Максімава. Вялікая».
**14.20** Фільм «Зімовы вечар у Гаграх».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Ежа як лекі».
**17.20** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.10** Фільм «Ты сустрэнеш таямнічага незнаёмца».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Кубак прафесіяналаў».
**23.00** Камедыя «Знаёмства з Факерамі-2».
**00.50** Камедыя «Кабінетны гарнітур».

### СТВ

**06.00** Чатыры танкісты і сабака. Серыял.
**08.00** Фільм «Чарлі і шакаладная фабрыка» (ЗША, 2005 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Тры таполі на Плюшчысе» (СССР, 1967 г.).
**14.15** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М.Задорнава.
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**22.35** «Дзіўная справа».
**23.35** Кубак Дэвіса. Беларусь - Ірландыя. Відэадзённік.
**23.45** Фільм «Уваход у пустэчу» (Францыя - Германія - Італія - Канада, 2009 г.).

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.35** Фільм-казка (СССР).
**08.45** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.40** Тэлебарометр.
**09.45** Заўтра - гэта мы!
**12.25** «Аўтабатл». Аўтамабільнае ток-шоў.
**13.05** Музычная камедыя «Мы з джазу» (СССР).
**14.45** Забаўляльная шоў-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**15.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Прамая трансляцыя.
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Баявік «Галівудскія копы» (ЗША).
**23.15** Тэніс. Парыж. Жанчыны. Фінал.
**01.20** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**02.10** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Таямніца душы».
**08.35** «Сакрэт фірмы».
**08.50** «АРТиШОК».
**09.25** «У рэху імені твайго..» Каралева польская і вялікая княгіня літоўская Бона Сфорца.
**09.40** «Прыміце тэлеграму ў доўг». Мастацкі фільм.
**10.55** «Калейдаскоп».
**11.05** «Трэст, які лопнуў». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**13.15** «Калейдаскоп».
**14.35** «Эпоха». Паэт, публіцыст, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху Адам Міцкевіч.
**15.25** Дзіцячы фільм. «Канікулы Пятрова і Васечкіна, звычайныя і неверагодныя». 1-я і 2-я серыі.
**17.45** «Культпрасвет».
**18.15** Сусветнае кіно. «Эпоха нявіннасці».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Канцэрт Акадэмічнага ансамбля песні і танца Узброенных сіл Рэспублікі Беларусь.
**22.30** «Культпрасвет».
**23.00** «Залёты». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра ім. Якуба Коласа.
**00.35** «Калейдаскоп».

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Дачакацца кахання» (2013 г.).
**10.10** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00, 14.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Мультфільмы.
**12.35** Фільм «Чароўная сіла».
**14.15** «Ха». Маленькія камедыі.
**14.30** Фільм «Зваротны квіток» (2012 г.).
**16.20** Фільм «Чаго жадаюць мужчыны» (2013 г.).
**18.10** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Я буду побач» (2013 г.).
**23.15** «Нядзельны вечар з».

### НТВ

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.20** Дэтэктыў «Іржа».
**15.05** «Лепшы горад Зямлі».
**16.15** «І зноў добры дзень!».
**16.40** «Следства вялі..».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Фільм «Забіць двойчы».
**23.25** «Споведзь».
**00.30** «Школа зласлоўя».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.45** «Тры шалёныя нулі», серыял: 2 серыя.
**08.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма). Погляд на падзеі тыдня вачыма журналістаў радыё «Свабода».
**08.50** Маю правa (юрыдычная праграма).
**09.10** Рэмарка (культурніцкая праграма): Мова.
**09.35** 54 % (публіцыстычная праграма): Жаночы погляд на войска.
**09.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Невядомая Беларусь: «Зоська Верас. Шэрая птушка з-пад Вільні», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**10.55** Казкі для дзетак: «Прыгода ката Філімона», «Прыгоды і паходы».
**11.25** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 4 серыя.
**12.15** «Тры шалёныя нулі», серыял: 2 серыя.
**12.40** Моўнік (лінгвістычная праграма): Трасянка.
**12.55** «Рэвалюцыя он-лайн», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**13.20** «Пошук Мазэпы», дак. фільм, 2013 г., Украіна.
**14.10** «Парадокс», серыял: 4 серыя.
**15.00** «2 бубачкі», маст. фільм, 2009 г., Чэхія.
**16.35** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 1 серыя.
**17.25** «Час гонару», серыял: 71 серыя.
**18.15** «Брацкая свечка», рэпартаж, 2013 г., Польшча.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**18.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ігнат Даніловіч.
**19.05** Форум (ток-шоў): Пастка.
**19.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** Дакументальная гадзіна: «Я – сын забойцы», дак. фільм, 2008 г., ЗША–Польшча.
**21.25** Фільматэка майстроў: «Скрадзеныя вочы», гіст. драма, 2005, Балгарыя–Турцыя.
**23.10** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Уладзімір Цэслер і творчая свабода.
**23.45** Форум (ток-шоў): Пастка.

---

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Заслаўе | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________

Кассир Всего ________

ДЫСКУСІЯ

# ЗА КАГО Б ГАЛАСАВАЎ ШЭРЛАК ХОЛМС?



Алег НОВІКАЎ

**Пасля выхаду на экраны трэцяга сезону тэлесерыяла «Шэрлак» брытанцы пачалі спрачацца наконт палітычных забабонаў славутага дэтэктыва з Бейкер-Стрыт.**

Трэці сезон брытанскага серыяла «Шэрлак», які выйшаў у студзені, стаў адной з самых заўважных культурных падзеяў апошняга часу. На інтэрнэт-форумах толькі і абмяркоўваюць яго плюсы і мінусы. Як правіла, у фокусе дыскусіі гульня галоўных акцёраў Бенедзікта Камбербэтча і Марціна Фрымэна, а таксама саўндтрэк, сюжэтныя павароты, якія прыдумалі аўтары сцэнару Стывен Мофат і Марк Гэтыс.

А вось на радзіме Холмса актыўна абмяркоўваецца палітычны бэкграўнд папулярнага серыяла, і ўвогуле ўсёй сагі пра славутага сышчыка. Пытанне ставіцца самым незвычайным чынам: калі б Холмс жыў зараз, за якую партыю ён галасаваў на выбарах?

Пралогам для такіх незвычайных дэбатаў стала серыя крытычных рэцэнзій на фільм на старонках прэсы. Правыя СМІ ўшчэнт раскрытыкавалі апошні эпізод «Шэрлака» за прысутную на экране агітацыю за партыю лейбарыстаў.

Сапраўды, некаторыя сцэны сведчаць пра тое, што аўтары карціны — людзі левых поглядаў. Па-першае, у ролі галоўнага праціўніка Шэрлака выступае тыповы буржуа, медыя-магнат Чарльз Магнусэн. Той, хто больш-менш цікавіцца англійскай палітыкай, адразу пабачыць у персанажы праекцыю на вядомага газетнага барона Руперта Мэрдака, чый сын кантралюе газеты «The Times», «Sunday Times» і «The Sun». Пры гэтым Шэрлак дае свайму праціўніку катэгарычную характарыстыку: «Я меў справу з забойцамі, псіхапатамі, тэрарыстамі, серыйнымі маньякамі. Аднак больш за ўсіх мой страўнік не пераварвае Магнусэна».

Дасталася ад Шэрлака і кансерватыўнаму мэру Лондана Барысу Джонсану. Так, падчас фільму нехта ўслых чытае артыкул з газеты пра ініцыятыву мэра зрабіць на месцы Тэмзы аўтамагістраль, а адзін з астраваў аддаць пад новы аэрапорт. Дарэчы, Джонсан даволі апенатыўна адрэагаваў на ўкол. Ён напісаў адкрыты ліст, у якім агучыў план свайго папярэдніка лейбарыста Кена Лівінгстона. Аказваецца, не кансерватары, а якраз лейбарысты планавалі ператварыць адзін з астраваў на Тэмзе ў новы аэрапорт.

Калі падсумаваць выпады супраць правых па ходу серыяла, блізкае па партыі торы выданне «Daily Mail» вынесла вердыкт: «Шэрлак — прадузяты левы прадукт».

На першы погляд, скандал цалкам штучны. Па-першае, фільм зроблены на BBC — грамадскай кампаніі, якая лічыцца аплотам левай журналістыкі і кінамастацтва. Па-другое, стваральнікі серыялу ніколі не хавалі антыпатый да торы. У 2010 годзе, падчас парламенцкіх выбараў, Стывен Мофат у адным з інтэрв'ю выказаў надзею на тое, што торы прайграюць. Яшчэ ў выпусках першага сезону Шэрлак быў выяўлены за чытаннем «The Guardian» — любімай газеты брытанскай левай аўдыторыі. Таму дастаткова слушны прыдуманы мясцовымі сатырыкамі прыкол: правыя накінуліся на Шэрлака, паколькі ён у новых эпізодах ганяецца за тэрарыстамі, замест таго, каб лавіць румынскіх і балгарскіх імігрантаў (тэма інтэрвенцыі на брытанскі працоўны рынак балканскіх гастарбайтэраў — адна з любімых фішак прапаганды кансерватараў).

Аднак атакуючы стваральнікаў «Шэрлака» правыя выданні нечакана надалі дыскусіі больш незвычайную ноту. Газеты пішуць, што цяперашні левы вобраз Шэрлака абсалютна штучны, паколькі на старонках апавяданняў Конан-Дойла ён выглядае як перакананы кансерватар.

Сапраўды, герой Конан-Дойла вядзе геданістычны лад жыцця, які ўяўна не нагадвае будні пралетарыя. Ён то ходзіць у оперу, то займаецца боксам, то нюхае какаін. Шэрлак Холмс як патрыёт дапамагае Скотленд-Ярду ў барацьбе з замежнымі разведкамі (апавяданне «Другая пляма»). Яго герой заўсёды гатовы служыць арыстакратыі («Сабака Баскервіляў»). Увогуле, ён вельмі ганарыцца тым, што мае справу з каранаванымі асобамі («Скандал у Багеміі»). У прынцыпе, погляды Холмса ў чымсьці перадаюць думкі яго стваральніка. Так, шматлікія літаратуразнаўцы лічаць, што вобраз адмоўнага ва ўсіх праявах прафесара Марыярці Конан-Дойл змаляваў з нейкага рускага анархіста. На той час шмат аматараў Бакуніна шукалі палітычны прытулак на Альбіёне, што выклікала паніку ў мясцовых абывацеляў. Як бачым, да такіх належаў і аўтар Холмса.

Гэта адзначаў і Карней Чукоўскі ў сваёй рэцэнзіі да апавяданняў Конан-Дойла «Ён быў тыповы буржуазны пісьменнік, які ні разу не асмеліўся паўстаць супраць «старога свету», з якім заўсёды заставаўся ў ладзе. Нідзе ў яго кнігах не відаць ні цені пратэсту. Яго Шэрлак Холмс бясстрашна і ўпарта змагаецца з дзясяткамі магчымых злодзеяў, але ні разу не здагадаецца спытаць сябе: чаму ж хвалёнае англійскае жыццё спараджае так шмат крымінальных злачынцаў?» — пісаў Чукоўскі.

Сама ідэя таго, што Холмс, калі б ён жыў зараз, павінен быў прагаласаваць за кансерватараў, узарвала брытанскія левыя форумы. Прыводзіцца безліч доказаў на карысць таго, што Холмс — лейбарыст. Па-першае, чалавек, які ўжывае наркотыкі і цураецца жанчын, яўна не падобны на аматара сямейнай маралі, з якой носяцца правыя. Па-другое, Шэрлак здымае кватэру, а значыць, ён падпадае пад нядаўна прыняты з ініцыятывы торы новы падатак на жыльцоў дамоў — т.зв. bedroom tax. Хіба пасля гэтага нехта будзе галасаваць за партыю Дэвіда Кэмерана? Нарэшце, у адным з апавяданняў Холмс кажа Ватсану пра тое, што рабочая моладзь — гэта будучыня Англіі.

Аднак самы незвычайны рэзон для Холмса галасаваць за левых, на думку некаторых журналістаў, заключаецца ў тым, што лейбарысты нічым не адрозніваюцца ад кансерватараў. «Памылка «Daily Mail» — у тым, што выбар на карысць лейбарыстаў больш не значыць выклік істэблішменту, паколькі лейбарысты самі частка гэтага істэблішменту. Ніхто не збіраецца больш пераразмяркоўваць багацце». Таму, калі б Конан-Дойл жыў сёння, ён бы мог спакойна аддаць голас за лейбарыстаў», — піша «The Guardian»

Развіваючы гэтую ідэю, некаторыя сцвярджаюць, што Холмс увогуле не пайшоў бы на выбары. «Холмс — чалавек, чый інтэлект шукае шарады, а якая інтрыга можа быць на выбарах, якія не мяняюць сістэму», — піша адзін з блогераў.

Вось такая забаўная дыскусія. Напрыканцы хочацца згадаць яшчэ адну версію, якую прапанавалі ірландскія блогеры. Паколькі частка «Дойл» у прозвішчы аўтара Холмса сведчыць пра яго ірландскае паходжанне, то сам сэр Артур Конан-Дойл і яго герой Шэрлак так ці інакш былі прыхільнікамі незалежнасці Ірландыі. Адпаведна, выбары ў брытанскі парламент дэтэктыў як ірландскі нацыяналіст прынцыпова праігнараваў бы.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Назіральнікі звяртаюць увагу на тое, што ўлады сталі пільнымі ўжо на першым этапе кампаніі і не турбуюць сябе нават імітацыяй дэмакратыі. Абыякавасць уладаў да меркавання і ацэнак ступені дэмакратычнасці выбараў з боку назіральнікаў эксперты тлумачаць некалькімі фактарамі. Па-першае, у краіне вельмі шмат сацыяльна-эканамічных праблем, і ўлады зусім не жадаюць, каб апазіцыя магла размаўляць з народам, разгойдваючы лодку беларускай стабільнасці. Сёння ў прэзідэнта Лукашэнкі няма яго галоўнага аргументу. Калі ў насельніцтва добрыя заробкі, а ў краіне — палітычная стабільнасць, то якім коштам гэта дасягнута, не важна. Між тым, бунтуюць настаўнікі, лекары, пра мяжу цярпення кажуць дзяржслужачыя. Па-другое, прэзідэнт Лукашэнка, мабыць, страціў надзею выбудаваць на дадзеным этапе нейкія адносіны з Захадам, а значыць, імітацыя дэмакратыі яму таксама ні да чаго. Сёння беларускі прэзідэнт робіць стаўку на Расію, якая ў цяперашніх геапалітычных умовах (у першую чаргу, гэта зацікаўленасць у інтэграцыйных праектах) гатова прымаць беларускую ўладу ў любым выглядзе.

**«Независимая газета» (Расія)**

Іншае пытанне, ці змогуць аб'яднаць атамізаванае беларускае грамадства новыя тэзісы грамадскага развіцця, якія сфармулююць ідэолагі па ўказе Лукашэнкі. Функцыянеры прыклалі нямала намаганняў, каб раз'яднаць соцыум, зрабіць яго аморфным і маўклівым. Цяпер ім прыйдзецца пажынаць плён уласнай палітыкі. Беларускія грамадзяне разумеюць, што ў любую нацыянальную ідэю ад імя аўтарытарнай дзяржавы будзе закладзены адзін і той жа сэнс — любой цаной утрымаць уладу. Да таго ж, якімі б прыгожымі словамі не затуляліся стваральнікі «духоўнага падмурка нацыі», у аснове ідэалогіі застаецца лаяльнасць да рэжыму. Таму большасць сфармулявала для сябе ўласную канцэпцыю выжывання. Людзі жывуць адным днём і не вельмі вераць прапагандыстам. І калі аўтарытарны рэжым пахіснецца, ніякія ідэалагічныя ўстаноўкі не прымусяць беларусаў выступіць у яго падтрымку.

**«Deutsche Welle» (Германия)**

Сыны Лукашэнкі не маюць афіцыйна фірмаў па гандлі вугалем ні ў Швейцарыі, ні дзе-небудзь яшчэ ў Еўропе, і тым больш не з'яўляюцца афіцыйнымі мільярдэрамі, як старэйшы сын Януковіча. Не сядзяць яны і ў парламенце, як нардэп Віцька. Найбліжэйшае атачэнне Аляксандра Рыгоравіча не гуляе вяселлі ў венскіх палацах, як сямейства Клюевых, не купляе самыя дарагія апартаменты Лондана, як Ахметаў, не праводзіць палову свайго свядомага жыцця ў Еўропе, як сынуля нашага прэм'ера Лёша Азараў. Іншымі словамі, сп. Лукашэнка — звычайны дыктатар, які нічым не саступае Пуціну, Назарбаеву або паўночнакарэйскім таварышам. А Віктар Януковіч яшчэ зусім нядаўна праводзіў «прасоўванне ў Еўропу». Таму і кульбіт 16 студзеня (дзень прыняцця пакета законаў, які абмяжуе грамадзянскія свабоды) выглядае не проста злавесна, але менавіта адкрыта дурным крокам.

**«Обком» (Украіна)**

Калі перазагрузка адносін Еўрасаюза з беларускімі ўладамі адсунулася на нявызначаны час з-за наяўнасці палітвязняў, у ЕС ёсць рэальны шанец стаць больш адкрытым і яшчэ больш павялічыць колькасць прыхільнікаў еўрапейскай інтэграцыі ў беларускім грамадстве. Для гэтага не варта чакаць вынікаў перамоваў аб змякчэнні візавага рэжыму з Мінскам, на правядзенне якога пасля працяглых затрымак пагадзілася беларускі бок. Рашэнне аб зніжэнні кошту шэнгенскіх віз для беларусаў з 60 да 35 еўра ЕС можа прыняць у аднабаковым парадку, без узгаднення з беларускім МЗС. Пакуль жа з вуснаў еўрапейскіх экспертаў усё часцей даводзіцца чуць заявы аб адсутнасці геапалітычных інтарэсаў ЕС у Беларусі. Можа, менавіта таму Захад прайграе Крамлю ў барацьбе за ўплыў на постсавецкай прасторы.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Сусветнай экспансіі беларускага аўтапрама можа перашкодзіць адна акалічнасць — не зусім уражлівая для інвестараў гісторыя беларускага аўтапрама. Лукашэнка ж даўно спрабуе наладзіць вытворчасць у рэспубліцы легкавых аўтамабіляў, вось толькі не атрымліваецца ў яго нічога. Прычына — уласная прагнасць. І вось у 2013 годзе за справу ўзялася кітайская «Geely». Улічваючы вопыт папярэдніх інвестараў, паверыць у поспех гэтай спробы даволі цяжка. Хіба што эканамічны крызіс, які працягваецца ўжо некалькі гадоў у Беларусі, зробіць Лукашэнку больш рахманым і прымусіць адмовіцца ад старых звычак.

**«СЛОН» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КНДР. РЭЖЫМ ЧУЧХЭ ЗА ЛЕГАЛІЗАЦЫЮ НАРКОТЫКАЎ

КНДР — самая ліберальная краіны ў свеце. Да такой незвычайнай высновы прыйшлі некаторыя амерыканскія выданні, якія лабіруюць ідэю легалізацыі марыхуаны. Даследуючы розныя нацыянальныя заканадаўствы на гэты конт, яны нечакана канстатавалі, што таталітарны рэжым Чучхэ не мае нічога супраць таго, каб грамадзяне КНДР у перапынках паміж бітвамі за сацыялізм спакойна палілі траўку. Больш за тое, як прызнаюць дыпламаты, улада таксама не пераследуе жадаючых вырошчваць забароненую шмат дзе на Захадзе наркатычную культуру ў сябе на агародзе. Такі незвычайны лібералізм эксперты тлумачаць тым, што ўлада КНДР праводзіць палітыку заахвочвання нацыянальнай традыцыі, якая служыць прапагандыцкай зброяй у барацьбе з касмапалітычнай Паўднёвай Карэяй. Гэта тычыцца і народнай медыцыны, паводле якой марыхуана — усяго толькі адзін з медычных сродкаў. Амерыканская прэса, прызнаючы нябачную на Захадзе свабоду ўжывання лёгкіх наркотыкаў, не выключае наплыву ў краіну Кім Чэн Ына амерыканскіх аматараў гэтай справы.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. КАРЛ МАРКС СУПРАЦЬ КАЦЯРЫНЫ ДРУГОЙ

Вайна помнікаў, якая працягваецца на прасторах былога СССР, дабралася да гораду Растоў-на-Доне, дзе набыла самыя незвычайныя формы. Тут усе мясцовыя антыкамуністы дружна абараняюць манументальную спадчыну камуністычнай эпохі — помнік Карлу Марксу, які з перарывам на часы гітлераўскай акупацыі стаіць у горадзе з 1925 года. Аднак усе ведаюць, што фундаментам для манументу служыць частка былога помніка Кацярыны Другой, які адчынілі ў 1894 годзе і знішчылі ў часы грамадзянскай вайны. На першы погляд, формула грамадскага кампрамісу простая: аднавіць помнік імператрыцы там, дзе ён гістарычна знаходзіўся, а Маркса пасунуць у іншае месца. Муніцыпалітэт схільны да гэтай схемы. Але справа ў тым, што аднаўленне арыгінальнага помніку Кацярыны патрабуе, каб на ёй быў і арыгінальны надпіс: «Імператрыцы ўдзячныя армяне». Як вядома, Растоў першапачаткова называўся Нор-Нахічаван і быў цэнтрам крымскіх армян-перасяленцаў, якіх Кацярына ў 1799 годзе заклікала сяліцца на Доне. Аднак з такім падыходам не згодныя расійскія патрыёты, якія баяцца, што ў выніку армянская меншасць пачне патрабаваць вяртання ўсіх першапачатковых тапаграфічных назваў.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЕНЕСУЭЛА. МАДУРА СУПРАЦЬ СЕРЫЯЛАЎ



Дзіўная аказалася рэакцыя прэзідэнта Нікаласа Мадуры на трагічнае забойства Монікі Спір (Mónica Spear), былой Міс Венесуэла. 29-гадовая Моніка Спір і яе 39-гадовы муж былі забітыя 6 студзеня на трасе ў цэнтральнай частцы краіны. Іх 5-гадовая дачка атрымала кулявое раненне нагі. Забойства шакавала венесуэльцаў, якія лічаць, што адказнасць за трагедыю нясе таксама ўрад. Аднак, на думку венесуэльскага гаранта, перш за ўсё за рост крымінальу адказныя серыялы, якія, быццам, прапагандуюць гвалт. Па выніках спецыяльнага пасяджэння ў адміністрацыі прэзідэнта была напісаная інструкцыя міністэрству камунікацыі. Ад міністэрства патрабуюць неадкладна праверыць змест усіх серыялаў на прадмет наяўнасці сцэнаў гвалту, якія чыноўнікі павінны будуць выразаць. Гарант таксама паабяцаў правесці спецыяльнае пасяджэнне парламенту, якое будзе прысвечанае як айчынным, так і замежным серыялам. Нікалас Мадура лічыць, што адмова ад гвалту дапаможа палепшыць крымінальную статыстыку ў краіне.

**Паводле венесуэльскай прэсы**

### УКРАІНА. КРЫМ УВОДЗІЦЬ ВІЗЫ ДЛЯ ЗАХОДНЯЙ УКРАІНЫ

Старшыня Вярхоўнага Савета АР Крым Уладзімір Канстанцінаў не выключае, што ў будучыні можа быць уведзена абмежаванне на ўезд у Крым для жыхароў Заходняй Украіны. Такія дзеянні Канстанцінаў аргументаваў тым, што ў Кіеве «з'явілася тэрыторыя, якая ўжо фактычна не кантралюецца цэнтральнай уладай», куды, нібыта, акрамя ўсяго не пускаюць крымчан, якія, як вядома, маюць імідж прыхільнікаў уключэння краю ў склад Расіі. «Калі крымчанін не можа патрапіць на нейкую тэрыторыю ў горадзе Кіеве, таму што ён — крымчанін, можа, нам тады тут у аўтаноміі ўводзіць падобныя тэрыторыі, і не пускаць шэраг жыхароў з заходніх абласцей», — сказаў Канстанцінаў. Пры чым тут жыхары Заходняй Украіны, Канстанцінаў канчаткова не патлумачыў. Навіна выклікала шмат смеху ў сеціве. Перш за ўсё таму, што на Майдане ёсць дэлегацыя з Крыму, якая адчувае сябе дастаткова ўтульна. Па-другое, прыкладна 60 працэнтаў тых, хто адпачывае ў Крыму, — жыхары Украіны, і ўвядзенне візаў нават для часткі з іх яўна негатыўна адлюструецца на турыстычнай індустрыі — галоўнай крыніцы выжывання мясцовай эканомікі. Аглядальнікі лічаць, што такімі на першы погляд абсурднымі заявамі Канстанцінаў хоча давесці Януковічу сваю поўную лаяльнасць з разлікам на новую больш высокую пасаду.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

СУПРАЦЬСТАЯННЕ

# АМЕРЫКАНСКІЯ КАНСЕРВАТАРЫ ЛЮБЯЦЬ ПУЦІНА

*Алег НОВІКАЎ*



**Прызначэнне Білі Джын Кінг, іконы ЛГБТ руху, у якасці кіраўніка амерыканскай дэлегацыі ў Сочы падштурхнула амерыканскіх кансерватараў абараняць рэжым Пуціна.**

Заўзяты антысавецтчык нябожчык Рональд Рэйган пэўна зараз круціцца ў труне: ягоныя ідэйныя паплечнікі з лагеру амерыканскіх ультракансерватараў здрадзілі запаветам. Яны забыліся, што яшчэ 30 гадоў падмуркам кансерватызму была татальная вайна з савецкай «імперыяй зла». Цяпер усё наадварот. Тыя, хто калісьці арганізоўваў маршы супраць савецкай інтэрвенцыі ў Афганістан і Маскоўскай алімпіяды, усё часцей пачынаюць бачыць у былым афіцэры КДБ Уладзіміры Пуціне ледзь не месію. «Яшчэ да алімпіяды ў Сочы Пуцін заваяваў залаты медаль у адстойванні маралі», — піша кансерватыўнае выданне.

Праўда, культ Пуціна ў асяроддзі амерыканскіх правых пачаў складвацца не зараз. Усё пачалося ў мінулым годзе, калі Расія заняла вельмі жорсткую пазіцыю супраць сірыйскіх інсургентаў, якія адназначна сімпатызуюць радыкальнаму ісламу. Ахвярамі акцый фундаменталістаў сталі сірыйскія хрысціяне, што адразу выклікала на старонках кансерватыўнай прэсы дыскусію наконт мэтазгоднасці ідэі паўтарыць у Сірыі «лівійскі сцэнар». Тады пазіцыя Масквы шмат каму спадабалася. Нехта з кансерватараў пісаў: «Гэта ганьба для ЗША, што Расія, а не мы, першай стала на бок Бога ў Сірыі, у той час, як ЗША падтрымлівалі іншы бок. Але, па меншай меры, нам удалося адкруціцца ад вар'яцкай авантуры Джона Кэры».

Цяпер прыліў сімпатый на адрас Масквы зноў у модзе. Прычынай стала рашэнне Барака Абамы прызначыць у якасці кіраўніцы спартовай дэлегацыі ЗША на гульні ў Сочы легенду амерыканскага тэнісу Білі Джын Кінг. Кінг (нарадзілася ў 1943 годзе) — адна з нешматлікіх гульцоў, што выйграла ўсе турніры Вялікага Шлема. Яна з'яўляецца рэкардсменкай па ліку перамог на Уімблдоне (разам з Наўраціілавай). На яе рахунку 20 тытулаў у суме ўсіх намінацый Уімблдона. У 1966, 1967, 1968, 1972 гадах яна была наймацнейшай тэнісісткай свету і абвяшчалася гульцом года.

Аднак Білі Джын праславілася не толькі на тэнісных кортах. Яна стала адным з сімвалаў радыкальнага фемінізму, які нарадзіўся ў Злучаных Штатах на пачатку 1970-х гадоў. Кульмінацыяй яе дзейнасці за роўныя правы жанчын у спорце стаў славуты матч з былой першай ракеткай свету, 55-гадовым Бобі Рыгсам, які дазволіў сабе публічна смяяцца з жаночага тэніса. Матч, пераможцу якога даставалася 100 000 долараў, атрымаў назву «Бітва палоў». У 1973 годзе за гульнёй, што ў прамым эфіры транслявалася з Х'юстана, сачылі 37 мільёнаў тэлегледачоў па ўсім свеце. Кінг у літаральным сэнсе разграміла Рыгса. Менавіта з таго моманту, па меркаванні шматлікіх спецыялістаў, тэніс стаў адным з самых папулярных відаў спорту ў ЗША.

Радыкальныя погляды Білі Джын распаўсюдзіліся і на яе прыватнае жыццё. Спачатку яна развялася з мужам, а пасля ўвогуле стала лесбіянкай. У 1970 годзе Білі Джын пагадзілася на аборт, матывуючы гэта намерам працягнуць сваю прафесійную спартовую кар'еру.

Прыкладна з 1980-х гадоў, пасля канчатковага сыходу са спорту, яна стала неафіцыйным лідарам ЛГБТ-руху ЗША. «Калі б у краіне праводзіўся конкурс Міс Вычварэнка, то Білі Джын Кінг лёгка выйграла б гэты тытул», — сцвярджала адна з ультаправых газет.

У кантэксце ўсяго апісанага трэба было чакаць, што рашэнне Абамы пра камандзіроўку Білі Джын у Расію правым не спадабаецца. «Абама, зрабіўшы Білі Джын Кінг прадстаўніком нашай краіны, паставіў ЗША на бок вычварэнцаў. Цяпер нават распушчанасць Веймарскай рэспублікі выглядае нявіннай у параўнанні з нашай краінай», — не знаходзіць сабе месца адзін з правых палітыкаў. Ён і яго паплечнікі не маглі прайсці міма таго факту, што галоўным «за» на карысць кандыдатуры на пасаду кіраўніка дэлегацыі ЗША ў Сочы была менавіта Білі Джын як змагара за правы ГЛБТ. Такім чынам ЗША хацелі выказаць пратэст супраць цяперашняй гамафобскай кампаніі ў Расіі.

Але, на думку правых, Абама не абмежаваўся проста прызначэннем Білі Джын. На думку кансерватараў, Абама наўмысна нашпігаваў зборную ЗША гомасэксуалістамі. Быццам, гетэрасэксуалаў у каманду бралі ў апошнім выпадку. Пры гэтым сімпатыі Белага Дома на адрас гомасэксуалістаў супрацьпастаўляюцца забабонам Крамля.

«Чаму нас асабліва абурае той факт, што каманда Расія цалкам гетэрасэксуальная? Чаму нас злуе тое, што прэзідэнт Уладзімір Пуцін выступае супраць паказнога гомасэксуалізму ў Расіі?» — задаецца пытаннем адзін з правых публіцыстаў. Падтрымка сэксуальнай палітыкі Пуціна хутка перарастае ў сімпатыю да яго палітычнага курсу, і нават да праваслаўнай царквы. На думку некаторых, РПЦ — ледзь не апошні бастыён маральных канонаў, паколькі рускія папы заўсёды маглі катэгарычна казаць «не» нейкім інавацыям, у адрозненне ад ксяндзоў і пастараў. «Рускае хрысціянства, вядома, не ідэальна. Але яно свабоднае ад тых базавых ерасяў, на якія цяпер пакутуе Захад. Перакананні Пуціна адлюстроўваюць такое стаўленне да свету, — пахваліў Пуціна аксакал правай сцэны Пат Бьюкенен. — Пуцін спрабуе аднавіць Праваслаўную Царкву як маральны компас нацыі, які існаваў на працягу 1000 гадоў, перш чым Расія патрапіла ў палон да атэістычнай і паганскай ідэалогіі марксізму».

Можна толькі здагадвацца, чым скончыцца нечаканы прыліў інтарэсу амерыканскіх кансерватараў да Пуціна, яго палітыкі і праваслаўя. Тут, натуральна, шмат будзе залежыць ад глабальных трэндаў у палітыцы ЗША. Калі кансерватары, якія зараз вельмі маргіналізаваліся, змогуць выставіць са сваіх шэрагаў асобу маштабу Рэйгана, яны напэўна перастануць ідэалізаваць Пуціна з-за відавочных супярэчнасцяў паміж ЗША і РФ. У іншым выпадку нас чакае проста фантастычны зігзаг амерыканскай кансерватыўнай думкі, прыхільнікі якой стануць па сутнасці расійскім лобі.

Напрыканцы хацелася б агучыць думку некаторых заходніх СМІ, якія расцэньваюць прызначэнне Білі Джын Кінг не як жорсткую пазіцыю ЗША па праблеме правоў чалавека, а як праяву слабасці. Не будучы здольнай супрацьстаяць новай экспансіі Масквы, Абама намагаецца рэабілітаваць сябе за кошт нейкіх шпілек.

МЕРКАВАННЕ

# НОВЫЯ ТВАРЫ НА МАЙДАНЕ

**20 студзеня на вуліцы Грушэўскага аблілі струменем з вогнетушыцеля Віталя Клічко, які спрабаваў прыпыніць натоўп, што ішоў штурмаваць Вярхоўную Раду. Гэта стала ілюстрацыяй таго, што лідары Майдана ўжо не здольныя кантраляваць маніфестантаў. Хто можа з'явіцца на месцы старой апазіцыйнай гвардыі? Пра гэта Алег Новікаў размаўляе з кіеўскім журналістам Юрыем Паляніным.**



***— Ці можна канчаткова казаць пра крызіс аўтарытэту лідараў апазіцыі?***

— На самай справе, ад пачатку давер да правадыроў быў вельмі нізкі. Некаторыя сацыялагічныя службы праводзілі апытанні на Майдане, і, паводле іх рапартаў, ступень антыпатый да сяброў трыумвірату (Клічко, Яцэнюк, Цягнібок) дасягала 60–70 працэнтаў. Аднак у сілу таго, што апазіцыя лепш арганізаваная, мае напрацаваныя выхады на спонсараў і прэсу, выключна яна магла наладзіць сістэму працы Майдану. Аднак па ходу пратэстаў яго першапачатковая мадэль (малебны, спевы гімну, скокі, пікеты ўстаноў), натуральна, надакучыла. Адначасова нарадзіўся і замацаваўся ў грамадскай думкі міф пра тое, што 1 снежня, калі на Майдан выйшла каля паўмільёна чалавек, улада валялася на вуліцы. Быццам, выключна апартунізм правадыроў не даў тады скінуць Януковіча.

Пасля таго, як Рада прыняла пакет рэзанансных паліцэйскіх законаў, паўсюль толькі і казалі: скокі на Майдане — больш не выхад. Чакалася, што знак ісці ў апошні і рашаючы бой дасць нехта з трыа. Аднак апошнія абмяжаваліся дзяжурнымі заклікамі да стварэння нейкіх новых каардынацыйных структур апазіцыі. Гэта пахавала рэшткі даверу да тройкі, якая, дарэчы, спачатку асудзіла правакатараў на Грушэўскага. Пазней старыя правадыры трохі падкарэктавалі сваю ацэнку. Яны кажуць, што разумеюць радыкальныя ўчынкі людзей, канстытуцыйныя правы якіх знаходзяцца пад пагрозай. Аднак узяць сітуацыю пад кантроль над Майданам яны пакуль цалкам не здольныя.

***— Знакам для паходу маніфестантаў на Раду стаў выступ на сцэне Майдана Сяргея Кобы, аднаго з лідараў праекту «Аўтамайдан» (групы ўладальнікаў аўто, якія блакуюць розныя ўрадавыя ўстановы. Шэраг акцый гэтай ініцыятывы (блакада рэзідэнцыі Януковіча ў Міжгор'і) былі вельмі балючымі для ўлады). Наколькі гэта структура можа прэтэндаваць на лідарства?***

— Пасля таго, як Коба заклікаў да паходу, некалькі яго сяброў па «Аўтамайдану» асудзілі такі крок. Пасля, праўда, яны знайшлі кансэнсус і працягнулі сваю справу. Цяжка сказаць, наколькі аўтамайданаўцы могуць стаць новым палітычным полюсам, таму што не зразумела, якім чынам ініцыятыва аўтамабілістаў можа інстытуцыйна інтэгравацца ў палітычны, і перш за ўсё электаральны працэс? Пра гэта сведчыць тое, што «Аўтамайдан» хутка прызнаў Клічко адзіным лідарам Майдану.

***— Адзін з самых важных момантаў мітынгу 20 студзеня быў свіст натоўпу на Майдане на адрас Алега Цягнібока, правадыра найбольш радыкальнай партыі на Майдане. Адначасова імідж найбольш паслядоўна радыкальнай групы перайшоў да раней малавядомай групоўкі «Правы сектар», чыя калона першай штурмавала рэдуты «Беркуту». Ці ёсць будучыня ў гэтай арганізацыі?***

— «Правы сектар» — гэта праварадыкальнае аб'яднанне, якое было створанае на базе фанатаў кіеўскага «Дынама». Дзякуючы патранату шэрагу вядомых апазіцыянераў (напрыклад, журналісткі Таццяны Чарнавол), яны знайшлі сабе месца ў Майданаўскім мікракосмасе: ім аддалі цэлы паверх захопленага будынку прафсаюзаў. Доўгі час гэта арганізацыя была ў ценю «Свабоды». Так, на 1 студзеня падчас маршу Бандэры актыў «Правага сектару» паспрабаваў сфармаваць сваю калону, аднак хутка адмовіўся ад гэтай ідэі з-за невялікай колькасці ахвотных. Наўрад ці нешта атрымалася ў ПС і 20 студзеня, калі б наэлектрызаваная маса на Майдане не адчувала, што ёй здрадзілі свае лідары. Абывацель, праўда, на пярэдні край фронту не папёрся, але стварыў такі людскі фон, які натхняў радыкалаў.

Зараз ПС перажывае пік сваёй папулярнасці. Аднак трэба прызнаць, што гэта структура вельмі супярэчлівая. Яшчэ напярэдадні «Еўра–2012» спецслужбы пачалі шчыльна працаваць з фанатамі, каб не дапусціць нейкіх правакацый падчас турніру. Таму ёсць думка, што паход на Грушэўскага мог быць справакаваны з мэтай дыскрэдытацыі апазіцыі. Напэўна, у Адміністрацыі прэзідэнта гэты сцэнар як мінімум разглядаўся — менавіта апошнія акцыі ўльтраправых былі фармальнай нагодай для абмежавання грамадзянскіх правоў.

***— Яшчэ ў лістападзе, на пачатку пратэстаў, шмат казалі пра новую генерацыю палітыкаў, якіх стварыў Еўрамайдан. Гэта перш за ўсё журналіст Мустафа Найем, музыкі Руслана Лыжычка і Сашко Палажынскі (лідар групы «Тартак»), эколаг Ігар Луцэнка. Яны могуць стаць рупарамі пратэстаў?***

— Каб адказаць на гэта пытанне, прапаную ўзгадаць аранжавую рэвалюцыю. У той час у намётах на Майдане ўзнікла нават цэлая партыя маладых палітыкаў «ПОРА». Яе лідарамі была якраз група маладых журналістаў і культурных актывістаў (праз яе структуры, дарэчы, упершыню паспрабаваў сябе ў палітыцы Клічко). Аднак у выніку моладзь адышла ад палітыкі, а «ПОРА» як партыя растварылася ў апазіцыйным нацыянал-ліберальным сегменце. Я думаю, што шанс зрабіць палітычную кар'еру на крызісе старых лідараў маюць не журналісты і музыкі, а хутчэй, прафесійныя палітыкі другога эшалону. Яны, з аднаго боку, ведаюць, па якіх правілах ва Украіне працуе палітычная машына, а з іншага — яшчэ не прыеліся электарату. Напрыклад, той жа Андрэй Парубій (партыя «Бацькаўшчына»), які адказвае за ахову Еўрамайдану і не замараўся ў карупцыйных аферах.

Аднак пытанне ў іншым. Праблема ў тым, што адначасова з Майданам узнік іншы цэнтр апазіцыі на барыкадах на Грушэўскага, да яго пакуль існуе вялікі інтарэс з боку грамадства. Таму з аднаго боку апазіцыя павінна падтрымліваць больш радыкальны імідж, а з іншага — так ці інакш ісці на саступкі ў перамовах з уладай. Інакш улада ў сваю чаргу не пойдзе на кампраміс, без чаго вырашэнне цяперашняга палітычнага крызісу немагчымае.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### НУРСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ



Прэзідэнт Казахстана ў дадатак да ўсіх сваіх рэгалій, сярод якіх тытул Елбасы (Бацька нацыі), вырашыў стаць уладальнікам 9-га дана па тэквандо. Дыплом і адпаведны пояс 9-га дана яму ўручыў асабіста прэзідэнт Сусветнай федэрацыі тэквандо Чунгван Чо. Сам Нурсултан ніколі не быў заўважаны на спартовых пляцоўках. Не дзіўна, што Чунгван Чо прыйшлося неяк растлумачыць свой арыгінальны ўчынак. Такім чынам, па словах спартыўнага чыноўніка, казахскі гарант атрымаў тытул «па сукупнасці заслуг», паколькі казахстанскія тэквандысты паспяхова выступаюць на міжнародных спаборніцтвах, дык «кіраўніцтва федэрацыі выдатна разумее, што такіх вынікаў можна было дамагчыся толькі дзякуючы падтрымцы з боку прэзідэнта». Як і трэба было чакаць, публіка ў інтэрнэце проста смяецца. Самае смешнае — тое, што Назарбаеў цяпер больш дасведчаны ў тэквандо, чым славуты аматар адзінаборстваў і спартовец Чак Норыс. У Чака Норыса, у адрозненне ад Назарбаева, толькі восьмы дан.

### ЮРЫЕ ЛЯНКЭ



Прэм'ер-міністр Малдовы, відавочна, вырашыў перастрахавацца ад Майданаў у Кішынёве. Ён заключыў дамову з румынскімі калегамі, паводле якой спецназ з Бухарэсту можа быць ужыты на тэрыторыі Малдовы для падаўлення вулічных беспарадкаў. Прычым румынскім жандарам таксама надаецца права ўжываць зброю супраць грамадзян Малдовы. Больш за тое, калі, на думку Кішынёва, паўстане неабходнасць, то па тэрыторыі Малдовы змогуць курсіраваць нават румынскія танкі. Сваё рашэнне малдаўскі ўрад звязвае з падзеямі ў Кіеве. Між тым, шмат хто лічыць, што дамова з Бухарэстам наконт падтрымкі сілавікоў звязаная з працэсамі ўнутры краіны. Пасля таго, як Малдова актывізавала дыялог з ЕС, Расія пачала кампанію супраць малдаўскіх працоўных мігрантаў, якія вымушаны масава вяртацца на радзіму. На думку шматлікіх палітолагаў, армія былых гастарбайтэраў узарве палітычны мір у Малдове. Быццам, іх і баіцца правячы кабінет, які вельмі імкліва губляе папулярнасць.

### РУСТЭМ ХАМІТАЎ

Прэзідэнт Башкірыі цяпер, адпаведна рашэнню Курултая рэспублікі, будзе не прэзідэнтам, а «башлыкам». Рашэнне прынятае ў святле рэформы, якую пачалі яшчэ пры Мядзведзеве. Паводле яе, у Расіі можа быць толькі адзін прэзідэнт. А менавіта прэзідэнт Расійскай Федэрацыі. Такім чынам, прэзідэнтам аўтаномных рэспублік было прапанавана называцца «рэгіянальны лідар» або прыдумаць нейкае адпаведнае слова. Чым нацыянальныя меншасці актыўна і займаліся. Цяпер чарга дайшла і да Башкірыі, якая ўпарта не жадала перамен. Аднак Уфа здалася. Прычым, на думку мясцовых нацыяналістаў, абіраючы аналаг слова «прэзідэнт» башкірскае кіраўніцтва спецыяльна адмовілася ад варыянту «хакім». «Хакім» — арабскае слова, якое азначае літаральна «той, хто вольны прымаць рашэнне, судзіць» ці проста «кіраўнік». Аднак у Крамлі спадабалася слова арабскага паходжання, і таму, быццам, башкірскія чыноўнікі зрабілі выбар на карысць «башлыка». Цікава, што гэта цюркскае слова, якое азначае літаральна «апранаюць на галаву». Так ці інакш, цяпер на прасторах Расіі толькі татары пакуль маюць прэзідэнта.





ТЭАТР

# ДАЙЦЕ ПІНІГІНУ ДАГАВАРЫЦЬ

## БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ Ў ТЭАТРАЛЬНАЙ ТЭТРАЛОГІІ РЭЖЫСЁРА МІКАЛАЯ ПІНІГІНА

Марыя МАРТЫСЕВІЧ

**У Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбылася доўгачаканая прэм'ера спектакля «Пан Тадэвуш» у пастаноўцы Мікалая Пінігіна паводле паэмы Адама Міцкевіча ў перакладзе Язэпа Семяжона і сцэнічнай адаптацыі Сяргея Кавалёва. Прэм'ера выклікала прадказальны ажыятаж як у гледачоў, так і ў крытыкаў, стаўшы ці не самай яскравай культурнай падзеяй сезону. Вашай увазе — яшчэ адно бачанне спектаклю, які (не) атрымаўся.**

***«...Яго спектаклі, якія кажуць беларусам пра беларусаў, самі сабой складаюцца ў своеасаблівую тэтралогію. Пастаноўкі «Тутэйшых», «Сымона-музыкі» і «Пінскай шляхты» даўно сталі культавымі і ўспрымаюцца гледачом як самадастатковая культурная з'ява, ужо толькі апасродкавана звязаная з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Вінцэнтам Дунінам-Марцінкевічам».***

### Золата Нёмана

Нямецкі кампазітар Рыхард Вагнер больш за 20 гадоў ствараў оперную тэтралогію «Пярсцёнак Нібелунгаў». У чатырох эпічных операх — «Золата Рэйна», «Валькірыі», «Зігфрыд» і «Пагібель багоў» — кампазітар здолеў сфармуляваць актуальныя маральныя праблемы свайго часу, уклаўшы іх у вусны пракаветных міфічных герояў. Вагнер скептычна меркаваў, што сучаснікі не ацэняць яго твораў належным чынам, але ўсё склалася з дакладнасцю наадварот. У другой палове XIX стагоддзя немцы адчувалі вострую патрэбу ў агульнай нацыянальнай ідэі, якую нечакана далі ім рамантычныя оперы Вагнера. Можна смела сцвярджаць, што немцаў тады аб'ядналі дзве рэчы: палітыка Бісмарка і музыка Вагнера.

> Пасля прэм'еры «Пана Тадэвуша» стала канчаткова зразумела: у справе фармулявання беларускай нацыянальнай ідэі рэжысёр Мікалай Пінігін мае амбіцыі, супастаўныя з вагнераўскімі.

Прынамсі, чыста статыстычна яго спектаклі, якія кажуць беларусам пра беларусаў, самі сабой складаюцца ў своеасаблівую тэтралогію. Пастаноўкі «Тутэйшых» (1990), «Сымона-музыкі» (2005) і «Пінскай шляхты» (2008) даўно сталі культавымі і ўспрымаюцца гледачом як самадастатковая культурная з'ява, ужо толькі апасродкавана звязаная з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Вінцэнтам Дунінам-Марцінкевічам. Менавіта таму адукаваная грамадскасць з захапленнем успрыняла навіну, што чацвёртым у гэтай плеядзе натхняльнікаў Пінігіна стане сам Адам Міцкевіч. Ужо той факт, што кастынг на беларускага Зігфрыда прайшоў ніхто іншы, як пан Тадэвуш, выклікаў прыліў энтузіязму.

Відаць, прычына ўсеагульнага ўздыму была яшчэ і ў тым, што гісторыя абноўленай беларускай культуры (з другой паловы XIX стагоддзя да нашых дзён) — гэта няспынная гісторыя асэнсавання беларусамі слыннай паэмы як сваёй.

Упершыню выдадзеную ў 1834 годзе ў Парыжы, яе ўжо ў 1859 годзе пераклаў на беларускую мову той жа Дунін-Марцінкевіч. У XX стагоддзі з'явілася тры «Паны Тадэвушы» па-беларуску: пяра Браніслава Тарашкевіча (1932), Пятра Бітэля (1955) і Язэпа Семяжона (1985). Ёсць сур'ёзныя падазрэнні, што ў гісторыі айчыннага перакладу гэта рэкорд.

> Дзеянне паэмы разгортваецца на Гродзеншчыне, недзе пад Навагрудкам, а ў арыгінальным тэксце столькі беларусізмаў, што польскія школьнікі вымушаныя зазіраць у слоўнік... Як жа тут не пецьь, як жа не дудзець пра ісцінную нацпрыналежнасць Адама Мікалаевіча?
>
> Але горкая праўда ў тым, што шырокаму беларускаму чытачу паэма малавядомая: беларускасць «Пана Тадэвуша» — інтэлігенцкая канцэпцыя. Экспансію якой у масы і абвясціў Мікалай Пінігін.

Нядзіва, што тэатралы з трымценнем чакалі ўвесь гэты «апошні наезд» на падмостках Купалаўскага. Магчыма, спрацаваў эфект зацягнутага чакання, але пабачанае хутчэй расчаравала.

### Мухаляпка XIX стагоддзя

Можна бясконца наракаць на несцэнічнасць «Пана Тадэвуша» — не ў ёй праблема, бо ў сучасным тэатры можна арганічна паставіць усё, што заўгодна. Пытанне толькі ў тым, як далёка гатовы зайсці рэжысёр.

Дзіўна, але ў справе «Пана Тадэвуша» зайсці надта далёка Пінігін гатовы не быў. Магчыма, яго спыніў піетэт да тэксту — галоўны герой новага спектакля, безумоўна, ён — сакавіты тэкст паэмы, які, сцяўшы сэрца, скарацілі з 400 старонак да 60-ці. З аднаго боку, заслухаешся, з іншага — закрадаецца крамольная думка, што больш радыкальная трактоўка літаратурнай асновы пайшла б толькі на карысць драматычнаму складніку праекта.

Бо ў выніку механічнага скарачэння ад першакрыніцы ў



Фота Віктара Стралкоўскага

**«Тутэйшыя»**

Спектакль «Тутэйшыя» па п'есе Янкі Купалы, забароненай ад 1920-х гадоў, быў пастаўлены Мікалаем Пінігіным на хвалі дэмакратызацыі ў 1990 годзе . У 1992 годзе п'еса атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі. У фінале «Тутэйшых» узнімаўся бел-чырвона-белы сцяг. Лічыцца, што менавіта па гэтай прычыне каля дзесяці гадоў таму былі спробы Міністэрства культуры прыбраць «палітычны» спектакль з рэпертуару. Паўтара гады спектакль быў фактычна забаронены. Прыкладна ў 2002 годзе Мікалай Пінігін аднавіў спектакль. У выніку п'еса некалькі разоў то прападала са сцэны, то зноў вярталася. У прыватнасці, была паказана да 125-годдзя Янкі Купалы 5 ліпеня 2007 года. Білеты раскупілі за месяц да пастаноўкі. Адміністрацыя спрабавала не дапусціць журналістаў і не дазваляла фатаграфаваць. У маі 2010 года Мікалай Пінігін заявіў, што спектакль у яго пастаноўцы зняты з рэпертуару.

**«Сымон-Музыка»**

Прэм'ера спектакля па паэме Якуба Коласа адбылася 19 лістапада 2005 года. Па форме спектакль быў задуманы Мікалаем Пінігінам як містэрыя, дзе дзейства каментуе хор. Паводле слоў рэжысёра, Сымон праходзіць усе этапы жыцця творцы — белай вароны сярод людзей, якому ва ўсе часы прыходзілася цяжка, і робіць галоўную справу свайго жыцця — вылечвае каханую музыкай.



Фота www.kupalauski.by

**«Пінская шляхта»**

Фарс-вадэвіль Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў адной дзеі. Прэм'ера адбылася 25 мая 2008 года, у верасні таго ж года — у Варшаве.



Фота www.bing.com

**«Пан Тадэвуш»**



Фота www.tut.by



спектаклі застаўся голы сюжэт, пададзены ў форме бясконцых статычных дыялогаў. Гэта выглядае сумнеўным творчым рашэннем, паколькі магутнасць паэмы — далёка не ў сюжэце.

> «Пан Тадэвуш» — этнаграфія, кепска замаскаваная пад гістарычны экшн. «Энцыклапедыя шляхецкага побыту» — азначэнне зацёртае, але дакладнае. Шматслоўнае ўсхваленне сармацкай культуры, падрабязныя апісанні беларускай прыроды, а таксама моды, звычаяў, кухні і забаваў літвінскай шляхты — вось што захапляла ў «Пане Тадэвушы» сучаснікаў Міцкевіча. Пазбаўце «Пана Тадэвуша» яго багатага дэкору — і ад твору нічога не застанецца.



Мікалай Пінігін, фота Сяргея Серабро



Адам Міцкевіч

Сцэнаграфія купалаўскай пастаноўкі (мастак — Зіновій Марголін) выразна кантрастуе з антуражам паэмы. Невядома, чаго болей у гэткім візуальным рашэнні — еўрапейскай стрыманасці ці беларускай стэрыльнасці. Спектакль атрымаўся вытанчаным, густоўным і падкрэслена пазбаўленым кічу, які, на жаль, часта грашаць беларускія падмосткі. Гравюра Напалеона Орды, што ажыла, — вось эстэтычны лейтматыў дзейства.

Але ж «Пан Тадэвуш» і ёсць мілы сармацкі кіч, які лагодна, з пяшчотай высмейвае аўтар. У паэме няма пафасу — у спектаклі ён з'явіўся.

Мінімалістычныя мізансцэны з шкам і веданнем справы падтрыманыя адным, але яскравым элементам рэквізіту. То Адам Міцкевіч (Павел Харланчук) здзірае з сябе бронзавую маску класіка і пераносіцца ў шчаслівае юнацтва, ператвараючыся ў маладога Тадэвуша. То Зося (Крысціна Казак), дэманструючы сваю прасцецкасць і нявыхаванасць, лупіць па сцэне гумовай (???) мухаляпкай. То Тэлімена (Юлія Шпілеўская) праяўляе вытанчанасць пецярбургскіх салонаў, робячы балетны экзерсіс каля станка. То Граф (Раман Падаляка) перад двубоем вастрыць шаблю на тачыльным коле. Польскі акцэнт беларускай мовы, які старанна стылізуе Падаляка, таксама ўваходзіць у шэраг нешматлікіх, але яскравых дэталяў, якія адцяняюць дзеянне.

Але ў астатнім за выняткам некалькіх эпізодаў, пастаноўка трымаецца рэалістычнай канвенцыі — таму гэтая падкрэсленая схематычнасць выклікае пэўныя пытанні. Відэашэраг, складзены з эпізодаў экранізацыі Анджэя Вайды, прагнаных праз чорна-белыя фільтры, толькі падкрэслівае: на сцэне чагосьці бракуе.

> Дальбог, рэалізм як метад вымагае значна больш рэсурсаў — больш фінансаў, больш дэталяў, больш рэпетыцый, большай аддачы акцёраў. Магчыма, ён нават вымагае наўпрост экранізацыі, а не тэатральнага дзеяння. У той жа час залішніх гульні, іроніі, гратэску ды іншага постмадэрнізму рэжысёр забаяўся.

Відаць, таму, што бачыў асноўнай мэтай новага спектакля асветніцкую. У Беларусі ж паўсюль, дзе мяркуецца кантакт з так званым простым гледачом (слухачом, чытачом і г.д.), на любы пафас, апроч гераічнага, — негалосная забарона. Такое ўжо здаралася ва ўсходнеславянскай культуры — у дапятроўскай Русі, дзе люта праследавалі скамарохаў, адзінай формай тэатру былі маралізатарскія містэрыі на біблейскія сюжэты, якія ставіліся пры царскім двары. У некаторых сваіх самых зацягнутых момантах новы «Пан Тадэвуш» нагадваў менавіта такую хрысціянскую містэрыю.

## Чужая пастараль

Рыхтуючыся да пастаноўкі, купалаўцы шматкроць дэкларавалі, што маюць на мэце падкрэсліць: Адам Міцкевіч — таксама і наш класік. На жаль, гэтую місію трупа хутчэй праваліла.

> Пасля купалаўскага «Пана Тадэвуша» задаешся пытаннем: а ці такі ўжо ён наш — гэты Адам Міцкевіч?

Асноўная загвоздка, магчыма, у тым, што «Пан Тадэвуш» — твор занадта адназначны, каб быць беларускім. Гэта месцамі смешная, месцамі сумная — але пераважна дабрадушная казка, якую Міцкевіч напісаў пра сваё дзяцінства і юнацтва na Litwie. У пэўным веку (у выпадку Міцкевіча — пасля трыццаці) кожны чалавек схільны ідэалізаваць уласную мінуўшчыну. І пагатоў — у эміграцыі, пагатоў, калі мясціны і абставіны тваёй маладосці знікаюць з твару зямлі, прычым амаль беспаваротна.

«Пан Тадэвуш» — пранікліві гімн страчанай Літве, канцэнтраваная настальгія. Адам Міцкевіч і Мікалай Пінігін як творцы супадаюць у тым, што абодва горача любяць сваю радзіму. Але на гэтым, бадай, усе супадзенні заканчваюцца.

Бо быць творцам, значным для сённяшніх беларусаў, — гэта апераваць як мінімум падвойным кодам. Беларуская штодзённасць, мары, памкненні — урэшце, дух народа — ніколі не ўкладваліся ў адназначныя схемы. Беларус — гэта па азначэнні супярэчлівасць. І найяскравей гэта прадэманстравала тэма вайны 1812 года ў інтэрпрэтацыі Мікалая Пінігіна.

Для шляхты часоў Адама Міцкевіча, як і для сучасных палякаў, паход Напалеона на Маскву — безумоўна вызвольны чын, які меў на мэце вярнуць незалежнасць былой Рэчы Паспалітай. Магчыма, таму ў пастаральнай паэме Міцкевіча няма ані згадкі пра самі вайсковыя дзеі: мы чытаем пра трыумфальнае шэсце польскіх уланаў на ўсход, пра банкет у старасвецкім стылі ў гонар генерала Дамброўскага, які даюць у Сапліцове, пра заручыны бравых напалеонаўскіх афіцэраў Тадэвуша і Графа з прыўкраснымі паненкамі.

Мікалай Пінігін разбурае гэтую ідылію, ствараючы ці не самыя моцныя інтэрлюдыі ў гісторыі беларускага тэатру. Ён навязліва нагадвае недасведчаным пра тое, што падчас напалеонаўскіх войнаў беларусы дэ-факта біліся з беларусамі.

І калі сцэна выпраўкі маладых сялян у царскае войска — пад бабскі хор, які з возу гарлае рэкруцкую песню, — кранае за жывое і не адпускае нават праз некалькі дзён пасля спектаклю, то сцэна, дзе абпаленыя харугвы польскай шляхты стаюцца насілкамі для пацярпелых падчас сумнавядомага фарсіравання Беразіны, выклікае хутчэй скептычную ўсмешку, заадно даючы паранаідальнаму беларускаму бамонду падставы плявткарыць пра «руку Масквы», якая нібы кіравала паліткарэктным рэжысёрам.

> Вось і выходзіць, што сэрца не падманеш. Бязмоўныя пінігінскія рэкруты ў выкананні студэнтаў Акадэміі мастацтваў прабіваюць на нічым не вытлумачальныя слёзы, а шляхта, таленавіта ўвасобленая найлепшымі акторамі краіны, заганяе ў сон добра пастаўленымі дыялогамі пра веліч радзімы.

Баюся, праўда ў тым, што аўтэнтычны «Пан Тадэвуш» не адлюстроўвае той нацыянальнай драмы, якую паспрабаваў пабачыць між радкоў Мікалай Пінігін.

## Альтэрнатыўная ідэалогія

Дарэчы, пра нацыянальную драму. Больш за ўсё паводле сваёй драматургіі купалаўская прэм'ера нагадвае ўрачысты парад на Дзень Волі, які бы ён мусіў выглядаць, калі б апошнія 20 гадоў гісторыі Беларусі склаліся інакш.

Раскошныя касцюмы (мастак — Алена Ігруша), схематычнасць дзеяння, статычныя, але эфектныя позы — персанажы праходзяць перад намі каляровым шляхетным парадам, захаплялльным гістарычным карнавалам. Тое ж, што ўсё гэта адбываецца ў, лічы, камерных умовах тэатру — няхай і вядучага ў краіне, але ўсё-ткі адрэзанага ад масавых каналаў працы з гледачом, — лішні раз нагадвае пра гета, у якое загнанае актуальнае беларускае мастацтва.

І трывожны сігнал тут не тое, што пасля прагляду спектакля міністрам культуры са сцэны прыбралі адзін з элементаў рэквізіту — харугву з гербам «Пагоня». А наяўнасць гэтай харугвы на сцэне была стрыжнем усёй задумы, без якога спектакль канчаткова разваліўся. Вось і атрымалася, што ані эстэтаў, ані патрыётаў новая пастаноўка да канца не задаволіла.

Аднак, нягледзячы на шматлікія прэтэнзіі да дэталяў, у цэлым прэм'ерны «Пан Тадэвуш» лішні раз падкрэсліў: Мікалай Пінігін сёння — больш чым рэжысёр. Гэта стратэг і ідэолаг нацыянальнай культуры, якой яе бачыць адукаваная частка беларускага грамадства. Інтэлектуал, якому ёсць што сказаць і якога — што б і як ён ні гаварыў — цікава слухаць.







Эпізод са спектакля

### Як яшчэ можна папулярызаваць сярод беларусаў паэму «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча?

- агучыць па-беларуску фільм Анджэя Вайды 1999 года;
- перавыдаць ранейшыя беларускія пераклады ў даступных выданнях;
- зрабіць новую версію паэмы па-беларуску — як паказвае практыка, перакладаў ніколі не бывае замнога.

### Якія яшчэ творы можна параіць Купалаўскаму тэатру дзеля рэбрэндынгу беларускай культуры?

- «Лабірынты» Вацлава Ластоўскага — нацыянальны хорар;
- «Міколка-паравоз» Міхася Лынькова — нацыянальны экшан;
- «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя — нацыянальны сітком;
- «Народны альбом» Лявона Вольскага і Міхала Анемпадыстава — нацыянальны мюзікл.

ЦІКАВА

# Міхась Мірановіч: «ТАК НІХТО НЕ ЛЮБІЦЬ ПРАЦУ, ЯК НЕ ЛЮБІМ ЯЕ МЫ!»

Сяргей ЧЫГРЫН

**Даўно хацеў набыць кніжку вершаў беларускага сатырыка і гумарыста Міхася Мірановіча з Віцебска. І вось нядаўна натрапіў у адной з кнігарняў Мінска на зборнічак «Жартачкі».**

Ехаў дамоў і чытаў. А многія проста запамінаў, каб калі-нікалі сяброў павесяліць.

Міхась Мірановіч сёння даволі папулярны сатырык на Беларусі. Яго друкуюць выданні, ён часта выступае сярод моладзі, выдаюцца яго кнігі.

Нарадзіўся паэт на Ушаччыне ў вёсцы Старына 65 гадоў таму. Скончыў Львоўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Івана Франко. Працаваў лабарантам, выкладчыкам, інжынерам-канструктарам, інспектарам дзяржнагляду за стандартам, начальнікам аддзела кадраў. Цяпер працуе вядучым інжынерам на адным з прадпрыемстваў Віцебска.

Найбольш вядомыя яго вершаваныя гумарыстычныя каракелькі-фрашкі. Піша і літаратурныя пароды. Напісаў тры кніжкі для дзяцей. Перакладае з украінскай і з польскай моваў. У прыватнасці, камедыю М. Старыцкага «За двума зайцамі» і драму І. Масляніцынай «Крыж Еўфрасінні», якія ідуць зараз на сцэне Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа.

Мае больш за 1,5 тысячы літаратурных публікацый, выдаў шмат сатырычных кніг. У 2003 годзе стаў лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Кандрата Крапівы. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Нядаўна я пасядзеў з келіхам піва са спадаром Міхасём, і ў нас атрымалася вось такая гутарка.

***— Спадар Міхась, як так сталася, што радыёфізік раптам стаў вясёлым лірыкам?***

— У гады майго студэнцтва ў грамадстве і ў СМІ было вельмі модна дыскутаваць на тэму: фізікі і лірыкі. І хаця я быў фізікам (дакладней, згодна з дыпломам, радыёфізікам), але любіў часам, начытаўшыся фантастыкі, пагартаць і зборнік лірычных вершаў. І, каб канчаткова прыйсці ў працітаянні: «фізікі — лірыкі» да кансенсусу, ахвяраваў сабой — сам стаў пісаць вершы. Такім чынам, зараз падзел паміж фізікамі і лірыкамі праходзіць менавіта па мне:

*Ідуць дажджы, ідуць гады,*
*Ідуць у далеч магістралі…*
*І я іду, іду туды,*
*Куды вы зноў мяне паслалі..*






***— У вас шмат выйшла з друку гумарыстычных зборнікаў, нават ёсць і такая назва зборніка, як міранізмы. Гэта вамі прыдуманы аўтарскі брэнд?***

— Калі я думаў, як назваць сваю першую кніжку гумарыстычных вершаў, дык на памяць прыйшоў назоў, якім іншым разам называюць кароткія гумарыстычныя творы — іранізмы. Не доўга думаючы, я прырабіў да гэтага слова першую літару ад свайго прозвішча — вось і атрымалася — міранізмы. Вось адзін з іх:

*Хоць мы тады не зараблялі,*
*Але ўсё роўна дружна адабралі.*
*Цяпер жа мы не адабраем,*
*Ды ўсё адно не зарабляем.*

***— Мне падабаюцца назвы вашых зборнікаў — «Жартачкі», «Хаханькі», «Смешачкі», «Фрашкі» і г.д. Ці лёгка яны пішуцца, і ці пішуцца штодзень?***

— Я лічу, што форма павінна адпавядаць зместу. Таму хочацца, каб гумарыстычная кніга мела вясёлую вокладку, такую ж вясёлую назву. Ёсць у мяне, напрыклад, зборнікі гумару, якія называюцца: «Квадратны дурань», «Віляй усмешкай», «Істэрыка гісторыка», «Ветэраны сэксуальнай рэвалюцыі»… Нахонт таго, як я пішу. У Юрыя Алешы быў дэвіз: ні дня без радка! Я яго сабе крыху падправіў: ні дня без фрашкі!

*Калі добра разабрацца —*
*Маем мы адказ прамы:*
*Так ніхто не любіць працу,*
*Як не любім яе мы!..*

***— Які гумар сёння любяць слухаць беларусы? Ці наогул яго баяцца?***

— Беларусы, як і ўсе нармальныя народы, любілі і любяць гумар. Заўсёды прыязна ўспрымаецца гумар на бытавыя тэмы, сямейны, пра п'яніц. Магчыма, трохі меншым поспехам карыстаюцца філасафізмы. Ды і не дзіўна — не кожнаму, хто прыйшоў, каб паслухаць гумарыста, адпачыць і пасмяяцца, хочацца пры гэтым яшчэ і думаць!

***— Што сёння вясёлае ў вас напісалася?***

— Летам 2013 года, дзякуючы спонсару, выйшла з друку першая кніжка маіх міранізмаў «Жартачкі» (у трох тамах). І ўвесь наклад (1000 паасобнікаў) — у мяне на руках. Ёсць дамова на продаж з асобнымі кнігарнямі Мінска і Віцебска, але ў крамах кніжка разыходзіцца не вельмі хутка. А ўмова спонсара — прадаць наклад першага тома і на гэта выдаць другі. Так — і з трэцім томам. Лепш справы з рэалізацыяй ідуць на прэзентацыях. Але для гэтага трэба мець час, а я пакуль што працую. Магу высылаць кніжкі поштай, з аўтографам — калі хто зацікавіцца… Ну, гэта так, для рэкламы…

***— Які лёс чакае беларускі гумар?***

— Я спадзяюся, што ў беларускага гумару, як і ва ўсёй нашай літаратуры, ёсць перспектывы. І, цалкам верагодна, што ў гэты самы час недзе пакуль што невядомыя аўтары, глынуўшы па чарцы для настрою, хацелі ўжо за сучасны «Сказ пра Валасатую гару» ці за «Панаса на Парнасе». Вось пасмяемся!.. Колькі ж можна плакаць? Карыстаючыся нагодай, хацеў бы згадаць пра свае стасункі з польскім гумарам. Пра «Шпількі» я ўжо ўспамінаў. Многае з таго, што мне падабалася ў «Шпільках», я перакладаў на беларускую мову. Атрымаліся чатыры зборнікі польскага гумару: «Шпількі», «Прыколкі», «Ах, пані, панове!..», «Смеху варта», асобныя кніжкі Анатоля Пяцямкоўскага «Кніга скаргаў» і Веслава Брудзіньскага «Прыдумкі». Пераклаў зборнік польскай гумарыстычнай фантастыкі «Аазіс» і зборнік Станіслава Лема «Ратуйце космас!».

**Сёе-тое з другога тома «Жартачак», якія чакае свайго выдання:**

**Межы**

*Шкада,*
*Але прызнаць належыць,*
*Што розум недзе*
*Мае межы.*
*Ды толькі*
*Самае паганае:*
*Што глупства —*
*Неабмежаванае!..*

**Грошы мяняюць людзей**

*Неяк яно*
*Так ідзе,*
*Як не з усімі —*
*З асобнымі:*
*Грошы*
*Мяняюць людзей,*
*І, што істотна —*
*Больш дробнымі.*

**Народ і мова**

*Ёсць прыкладаў*
*У свеце дастаткова —*
*Няма народа,*
*Ды жывая мова.*
*А вось у нас*
*Усё наадварот —*
*Знікае мова,*
*Хоць жывы народ.*

**Часцей страчаюцца**

*Няўзнак*
*З'яўляецца трывога —*
*Ліхія весці*
*Прыкмячаюцца:*
*Благіх людзей*
*Не так і многа,*
*Але яны*
*Часцей страчаюцца.*

**Гонар і ганарлівасць**

*Шкадаванне ёсць,*
*А ёсць шкадлівасць…*
*Нам заўжды*
*Не тое выбраць собіць.*
*Гонар май,*
*Але не ганарлівасць —*
*Ганарлівасць*
*Гонару не робіць.*




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 93

Падпісана да друку 24.01.2014. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.